# ПОЛАЦАК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНА-
АСЬВЕТНІЦКАГА ЦЭНТРУ
КЛІЎЛЕНД
ЗША




№8(18), 1992

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпісчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451



# Змест



**Андрэй Карпук** Распрацоўнка макета вокладкі, шрыфтоў рубрык і заставак
На развароце. **Уладзімір Басалыга.** «Вобразы мілыя роднага краю...»
На першай бачынцы вокладкі. **Яўген Ціхановіч.** Партрэт Я.Коласа
На другой і трэцяй бачынках вокладкі:
Моманты з сьвяткаваньня 1000-годзьдзя Полацкай япархіі
На чацьвёртай бачынцы вокладкі. **Юры Тышкевіч**. Якуб Колас




# Асноўныя этапы гісторыі Праваслаўнай Царквы ў Беларусі

Юры Штыхаў

Хрысьціянства ў форме праваслаўя на працягу стагодзьдзяў аказавала значны ўплыў на сфэру духоўнасьці, культуры беларускага народу, уключаючы пісьменства, літаратуру, манумэнтальнае дойлідства, жывапіс, плястыку, музычнасьць і г.д. Яно ўплывала на самафарміраваньне беларускага этнасу, яго менталітэт побач зь іншымі царквамі. Без глыбокага вывучэньня канфэсыйных пытаньняў нельга напісаць сапраўдную, праўдзівую гісторыю Беларусі.

Хрысьціянства ў Беларусі распаўсюджвалася зь Бізантыі праз Кіеў. Мітраполія ў Кіеве зьяўлялася найбольш значнай па памерах мітраполіяй Канстантынопальскага патрыярхату. Разам з прыняцьцём новай веры была ўведзена кірылаўская азбука, якую склалі для старабалгарскай мовы ў 863 г. браты Кірыла і Мяфодзій. Яны пераклалі з грэчаскай мовы на старабалгарскую царкоўна-рэлігійныя кнігі, якія траплялі з Балгарыі і Бізантыі да ўсходніх славян. Дзякуючы пісьменнасьці старабалгарская мова, якая завецца «царкоўнаславянскай» распаўсюдзілася на большую частку славянскіх краінаў, у тым ліку ў Беларусь. Яна стала літаратурнай мовай усіх славян. Вывучэньне надпісу на камні, які быў знойдзены ў фундамэньце Полацкай Сафіі XI ст. паказвае, што надпіс зьвязаны зь першапачатковым асваеньнем ў Полацкай зямлі кірыла-мяфодзіеўскіх пісьмовых традыцыяў. Ёсьць весткі, што ў бібліятэцы пры Полацкім Сафійскім саборы ў раньнесярэднявечныя часы захоўваліся кнігі на царкоўнаславянскай мове, на якую іх перакладалі з грэчаскай мовы Кірыла і Мяфодзій. На царкоўна-славянскай мове напісана «Жыціе Ефрасінні Полацкай» — амаль адзіны помнік старажытнай полацкай літаратуры, які дайшоў да нас. Астатняе зьнічтожана пажарамі і войнамі.

Вывучэньне пісьмовых крыніц прывяло царкоўных гісторыкаў да высновы аб заснаваньні Полацкай япархіі ў 992 г. Яе памеры, напэўна, адпавядалі межам Полацкай зямлі як дзяржаўнага ўтварэньня. У XI—XII стст. на чале царквы ўсіх усходніх славян стаяў кіеўскі мітрапаліт, які браў удзел у назначэньні (пастаўленьні) япіскапаў у асобныя япархіі (япіскапіі) і, пэўна, у Полацкую япархію. Сюды былі прызначаны япіскапамі Міна (1105), Дыянісій, Сімяён, якія праславіліся ў Полацку сваёй сьвятасьцю.

У Кіева-Пячорскім пацерыку зьмешчаны тэкст аб заснаваньні Тураўскай япархіі ў 1005 г. Спроба распаўсюджаваньня хрысьціянства па рыма—каталіцкай традыцыі ў Тураве ў пачатку XI ст. посьпеху ня мела.

Як паведамляецца ў «Жыціі Кірылы Тураўскага» ён стаў япіскапам па просьбе князя і «*людзе таго горада*». З гэтага вынікае, што гараджане ў Тураве мелі права голаса, калі вырашалася пытаньне пра выбраньне япіскапа. Канешне, затым кіеўскі мітрапаліт хіратанізаваў яго на япіскапскую кафэдру. Паводля Кіева-Пячэрскага пацерыка, у духоўным падпарадкаваньні тураўскага япіскапа ў XII ст. былі гарады

Пінск, Наваградак, Гародня, Берасьце, Ваўкавыск, Зьдзітаў, Дубровіца, Слуцк і інш. Відаць, межы Тураўскай япархіі сапраўды ішлі далёка на захад, ахопліваючы ўсю Заходнюю Беларусь і частку Валыні. Гэта пацьвярджае параўнальна ранньяе распаўсюджваньне хрысьціянства ў Беларускім Панямоньні, якое ў другой палове XII ст. стала асновай фарміраваньня Вялікага княства Літоўскага— беларуска-літоўскай дзяржавы.

Вялікія князі літоўскія былі зацікаўлены ў стварэньні сваёй праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Наваградку. Канстантынопальскі патрыярх благаславіў адкрыцьцё такой мітраполіі ў 1317 г. Мітрапаліт Феафіл (верагодна, кіраваў Полацкай і Тураўскай япархіямі) памёр у 1330 г. Наступны мітрапаліт Феагност быў прыхільнікам Масквы і пры падтрымцы Івана Каліты дамогся закрыцьця «літоўскай» мітраполіі, пад выглядам таго, што тут быццам-бы мала праваслаўных вернікаў. Значныя намаганьні для яе аднаўленьня прыкладвалі Альгерд і Вітаўт. У 1487 г. была зацьверджана Праваслаўная (Кіеўская) мітраполія ў Вялікім княстве Літоўскім. За сто гадоў да гэтага ў 1387 г. этнічныя літоўцы, што былі паганцамі, прынялі хрысьціянства ў выглядзе каталіцтва.

З сярэдзіны ХУІ ст. ў Беларусі распаўсюджваюцца ідэі Рэфармацыі. У гарадах узьнікаюць пратэстанцкія абшчыны. Прымаюць кальвінім прадстаўнікі буйных магнацкіх родаў. У другой палавіне ХУІ ст. праваслаўнае веравызнаньне страчвае вядучую ролю ў духоўным жыцьці насельніцтва Беларусі Вялікага княства Літоўскага.

Папства здаўна выношвала ідэю аб вуніі заходняй і ўсходняй цэркваў. Было некалькі спробаў ажыцьцявіць яе (Лішанская вунія 1274 г., Фларэнтыйская вунія 1439 г). Вунія стварала ўмовы для распаўсюджваньня каталіцызму ў новых краінах.

У Вялікім княстве Літоўскім Ягайла і Вітаўт спадзяваліся з дапамогай вуніі зьмягчыць нацыянальна-рэлігійную варожасьць унутры ВКЛ і паслабіць сувязі беларускага і ўкраінскага насельніцтва з Маскоўскай дзяржавай. Яны мелі намер прасіць на Канстанцкім саборы 1414 г. аб дапамозе ў справе падпарадкаваньня праваслаўных падданых адзінай каталіцкай царкве. Для гэтага быў накіраваны на Канстанцкі сабор мітрапаліт Рыгор Цамблак, але безвынікова. Ідэя вуніі заходняй і усходняй цэркваў не была прызнана ў Бізантыі, а тым больш у Маскоўскай дзяржаве.

Пасьля аб'яднаньня Польшчы і Вялікага княства Літоўскага ў адну дзяржаву Рэч Паспалітую (1569) палітычныя інтарэсы яе ўрада, які асьцерагаўся ўплыву Маскоўскай дзяржавы і Расейскай праваслаўнай царквы на беларусаў і украінцаў, супалі з даўнімі намерамі Ватыкана, а таму зьявілася рэальная магчымасьць увядзеньня Берасьцейскай царкоўнай вуніі (1596 г.) З канца ХУІ ст. пачалі ўтварацца «брацтвы» для абароны праваслаўнай царквы. Часам праяўляўся фанатызм як з боку прыхільнікаў вуніі, так і яе ворагаў. Рознымі спосабамі вунія паступова распаўсюджвалася на тэрыторыі Беларусі й Украіны. Рабілася гэта з дапамогай вярхоўнай улады Украіны. Так, у 1635 г. польскі кароль Уладыслаў ІУ даў вуніятам грамату, дзе гаварылася, што ў Віцебску, Полацку, Наваградку не павінна быць ніякіх іншых цэркваў акрамя вуніяцкіх. У 1669 г. выйшла пастанова сейма Рэчы Паспалітай аб асуджэньні асоб, якія перайшлі з вуніяцтва ў праваслаўе (былі і такія выпадкі). Прадугледжвалася іх выгнаньне з месцаў пастаяннага пражы-

ваньня і канфіскацыя маёмасьці. Здаецца парадаксальным, што ў канцы ХУІІІ ст. сярод беларусаў налічвалася 75-80% вуніятаў і вунія стала як-бы верай «простага» люду. Але так адбылося. Тым самым вуніяцкая царква набліжалася да нацыянальна-беларускіх пазіцыяў, ва ўсялякім разе не ў меншай меры, чым гэта можна гаварыць пра дзейнасьць праваслаўных брацтваў.

У другой пал. ХУІ—ХУІІ стст. у Беларусі актывізалася каталіцкая контррэфармацыя. У 1599 г. Вільні была заключана канфэдэрацыя кальвіністаў і праваслаўных, аднак, яна не змагла спыніць нацыянальнага ўціску. Езуіты пашыралі свой уплыў на рэлігійнае, культурнае і палітычнае жыцьцё, дамагаліся закрыцьця школ і друкарняў праваслаўных брацтваў.

Не ва ўсе гістарычныя пэрыяды роля праваслаўнай царквы была аднолькавай. У канцы ХУІІІ ст. ўся Беларусь была далучана да Расейскай імпэрыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай. Каб коратка ахарактарызаваць становішча Беларусі ў складзе Расеі ў XIX ст. працытуем тое, што напісана ў падручніку для вузаў «История БССР», які быў створаны пад рэдакцыяй ак. М. Цігамірава (1948, с. 382). «Правительство Николая I старалось всеми средствами добиться скорейшай русификации белорусских и литовских земель. Оно стремилось задушить малейшие проблески национального сознания, начисто стереть все народные местных особенности .Особым указом 1840 г. Миколай запретил даже употребление названия «Белоруссия» и «Литва».

Кіруючыя колы Расейскай імпэрыі, як раней Польшчы, зыходзячы з пэрспектывы асыміляцыі беларусаў, імкнуліся ідэнтыфіцыраваць паняцьці рускі і праваслаўны, паляк і каталік, у выніку чаго адмаўляўся факт існаваньня ня толькі беларусаў—праваслаўных і беларусаў-каталікоў, а і наогул, беларусаў, як самастойнага этнасу.

У 1838 г. Полацкім царкоўным саборам вуніяцкіх япіскапаў, які быў падрыхтаваны царскім урадам і некаторымі япіскапамі, вуніяцкая царква была далучана да Расейскай праваслаўнай царквы. Больш 1,5 мільёна вернікаў заходніх губэрняў расейскай імпэрыі папоўнілі яе прыходы. Расейскі дэмакрат А.І Герцэн у «Колоколе» за 1858 г. успамінаў пра тое, як цар Мікалай І *«всекал униат в православие»*. На белорускіх землях былі ўведзены расейскія парадкі, дзяржаўнай мовай аб'яўлена расейская.

У часы бальшавіцкага таталітарызму становішча цэркваў розных канфэсіяў было асабліва цяжкім. У 1922 г. была спроба стварыць Беларускую праваслаўную мітраполію, на чале якой стаў япіскап Менскі Мельхіседэк (Паеўскі). У надрукаваным дакумэнце гаварылася аб імкненьні «праваслаўнай Беларусі да ўпарадкаваньня свайго царкоўнага жыцьця на пачатках поўнай незалежнасьці (аўтакефаліі)». Хутка Мельхіседэк загінуў у засьценках НКУС.

Удалося склікаць у траўні 1924 г. у Магілёве сабор, які абвясьціў аб стварэньні аўтаномнай (неаўтакефальнай) Беларускай Праваслаўнай Царквы. У яе склад увайшла прыкладна палавіна прыходу Расейскай Праваслаўнай Царквы, якія знаходзілася на тэрыторыі БССР. Кволая аўтаномія Беларускай Праваслаўнай Царквы праіснавала да канца 1934 г. і была ліквідавана ўладамі, а яе прыходы й япархіі ўвайшлі ў склад Маскоўскай патрыярхіі.

У былым Савецкі Саюзе ў даваенныя гады зусім адкрыта праводзілася антыцаркоўная дзяржаўная палітыка. Страшэнныя рэпрэсіі абрушыліся на многіх сьвятароў.

Напярэдадні вайны на свабодзе заставаліся толькі некалькі япіскапаў Расейскай Праваслаўнай Царквы. Частка веруючых знаходзілася ўвесь час у духоўным падпольлі, ствараючы так званую «катакомбную» царкву, якая не ішла ні на якія кампрамісы з бальшавікамі. Набажэнства вялося на дамах, у буданах і г.д. Існавала «Истинно-православная церковь», яе прадстаўнікі былі ў Магілёве, Віцебску, Слуцку. У 1933 г. усе яны рэпрэсіраваны, фактычна ў падпольлі знходзіліся стараверы, якіх налічвалася значная колькасьць на Гомельшчыне.

У верасьні 1943 г. было дазволена правесьці выбары Патрыярха Маскоўскага й усяе Русі (абраны быў Сергій) і ўтварыць Сьвяшчэнны Сынод. Тады гэта расцэньвалася як пачатак прымірэньня дзяржавы і праваслаўнай царквы. Але таталітарны рэжым рабіў усё, каб трымаць царкоўную дзейнасьць, уключаючы назначэньне сьвятароў пад сваім кантролем. Сьвятары былі абавязаны з амбонаў абвяшчаць «здравіцы» у гонар «непарушнага блёку камуністаў і беспартыйных».У Беларусі ў часы 2-й сусьветнай вайны, калі беларуская зямля знаходзілася пад нямецкай акупацыяй, праваслаўнае жыцьцё тут было амаль у такіх-жа цяжкіх умовах, як пры сталінізме.

У жніўні 1942 г. у Менску на I Усебеларускім царкоўным саборы, быў зацьверджаны статут «Сьвятой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай царквы». Аднак сабор фармальна не зацьвердзіў аўтакефаліі.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква існуе за мяжой ў Паўночнай Амэрыцы.

У 1961 г. Расейская Праваслаўная Царква далучылася да экуменічнага руху, які ўзьнік ў сярэдзіне XIX ст. у пратэстантызме. Фармальная мэта руху—адзінства выравызнаньня ўсіх хрысьціян.

Рашэньнем Архіярэйскага Сабора Расейскай Праваслаўнай Царквы ў кастрычніку 1989 г. ўтвораны Беларускі Экзархат Маскоўскага патрыярхата, які называецца таксама Беларускай Праваслаўнай Царквой.

У Беларусі зь яе талерантным народам існуюць найбольш спрыяльныя ўмовы, каб тут зьдзяйсьнялася народам сапраўднае адзінства веравызнаньня хрысьціян. Праваслаўе грунтуецца на ўсеагульных каштоўнасьцях, надзеях, і спадзяваньнях маральнага, духовага ўдасканаленьня асобы, толькі патрэбнае супрацоўніцтва і разуменьне людзей.


каля сабору сьв. Сафіі



# Сьвята 1000-годзьдзя Праваслаўя ў Беларусі

Валянтына Дашыневіч

Гэта было сапраўднае Сьвята. Адбылося яно 24-27 верасьня 1992 г., але да гэтых дзён вёў 4-х гадовы шлях атрыманьня Царквою свабоды, яе адраджаньне пасьля ўсеславянскага сьвята хрышчэньня Русі: аднаўленьня і будаўніцтва храмаў і манастыроў, адраджэньне грамадзкага служэньня Царквы, яе выдавецка-асьветніцкай дзейнасьці, стварэньне нядзельных царкоўных школ для дзяцей, узнаўленьне традыцыяў царкоўных хароў для дзяцей, царкоўных канцэртаў, духоўных сьпеваў, зьяўленьне пры цэрквах брацтваў і сястрычастваў зь іх справамі міласэрнасьці. У жыцьці беларускай царквы гэта вельмі адказны пэрыяд узнаўленьня ўсіх праваслаўных япіскапскіх кафэдраў: ад адной Менска-Беларускай япархіі ў 1988 г. да дзесяці ў складзе Беларускай Праваслаўнай Царквы з уласным кіруючым Сынодам япіскапаў. Усё гэта вельмі важна для жыцьця Царквы, яе прыходаў, духоўнага акармленьня паствы, для яе месца ў жыцьці грамадзтва. Да таго-ж узнаўляецца царкоўная пэрыёдыка: Менскія, Магілёўскія, Горадзенскія эпархіяльныя ведамасьці, Віцебска-Полацкая газэта «Наша Праваслаўе», Жодзінскя парафіяльная газэта «Царкоўнае слова» і часопіс «Веснік Беларускага экзархата». Вялікая ласка Божая— узнаўленьне ўласнае багаслоўскае адукацыі —Менскай Духоўнай сэмінарыі ў Жыровіцах, Менскіх эпархальных курсаў рэгентаў і, нарэшце, рашэньне Беларускага Сыноду аб стварэньні нацыянальнай багаслоўскай школы. І зараз ужо вядзецца экзархатам ня толькі падрыхтоўка сьвятароў, але і складаная справа першага царкоўнага перакладу на беларускую мову біблейскіх тэкстаў у адпаведнасьці з праваслаўнай традыцыяй. Створана Беларуская Біблейская камісія, цесна зьвязаная ў сваёй працы з адпаведнымі камісіямі іншых краін, асабліва славянскіх народаў. Справе гэтай надаецца сур'ёзная ўвага бо, як кажа ў прадмове да перакладу «Евангельля паводля Матфея» (1991 г.) мітрапаліт Філарэт «для нацыянальнай мовы пераклад сьвяшчэннага пісаньня зьяўляецца экзаменам на сталасьць. Пераклад Новага запавету павінен стаць асновай для багаслоўя на беларускай мове. Стварыць багаслоўскія сыстэмы, багаслоўскія тэксты немагчыма, пакуль няма благаславеннага Царквою саборнага перакалада біблейскіх тэкстаў».

У напружанай працы па зьдзяйсьненьню складаных справаў адраджэньня хрысьціянскага жыцьця народу й арганізацыйнага свайго ўладкаваньня сустрэла Праваслаўная Царква Беларусі свой юбілей, тысячагодзьдзе Полацкай япархіі—першай япіскапскай кафэдры ў Беларусі. Падрыхтоўка да сьвяткаваньня юбілея патрабавала паглыбленай працы сьвецкіх і царкоўных гісторыкаў па ўстанаўленьню самой даты пастаўленьня першага Полацкага япіскапа: 992 ці 1105 год. У Беларускім экзархаце былі праведзены два навукова-царкоўных калёквіюмы, выдадзеныя спэцыяльны прэс-рэліз і «Пасланньне Сыноду Беларускага экзархата напярэдні 1000-годзьдзя Праваслаўнай Царквы Беларусі». Дапамаглі ў гэтай адказнай справе ўжо наладжаныя мітрапалітам сувязі з навукоўцамі АН Беларусі, унівэрсытэту, Скарынаўскага цэнтру, удзел такіх спэцыялістаў па гісторыі старажытнага Полацку, як сп. М.Ермаловіча, доктара гістарычных

навук Штыхава, доктара гістарычных навук Аляксеева, (Масква), гісторыка ігумена Ніка-на і інш., глыбокае вывучэньне першакрыніц. Беларускі экзархат наогул надае значную ўвагу царкоўнай гісторыі Беларусі. Аб гэ-тым сьведчыць зроблены ў 1990 г. рэпрынт кнігі архіяпіскапа Афанасія Матроса «Белорусь в исторической государственной и церковной жизни» і правядзеньне ў 1988—1992 гг. чатырох навукова-царкоўных калёквіюмаў: «Хрысьціянізацыя Русі і беларуская культура», «Славяне адзінства і шматвобразнасьць», «Біблейскія пераклады ў нацыянальным і міжнародным кантэксьце» з удзелам замежных дзеячоў «Біблейскіх суполак» з расейскіх патрыяршых камісіяў, удзел у канфэрэнцыі з нагоды 830-годзьдзя Крыжа прэп. Еўфрасіньні Полацкай, і, нарэшце, напружаная праца па падрыхтоўцы вялікай юбілейнай навукова-багаслоўскай канфэрэнцыі, што была арганізавана Царквою й Акадэміяй Навук Беларусі. Экзархат выдаў да яе грунтоўныя тэзісы 96 дакладаў. У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел царкоўныя дзеячы і навукоўцы Беларусі і Замежжа. У час канфэрэнцыі прэзентавана напісанная па благаславеньню мітрапаліта Філарэта кніга А. Мельнікава «Путь непечален»—нарысы сьвятасьці Белай Русі (Беларускі варыянт «Шлях немаркотны» падрыхтаваны да выданьня). Да юбілею экзархатам была таксама выдадзена цікавая ілюстраваная дакумэнтальная хроніка маскоўскага дасьледчыка Ю.Лабанцава і Л. Толкачевай «Полоцк— колыбель Православия на Белоруссии».

У сваёй прадмове на канфэрэнцыі мітрапаліт Філарэт зьвярнуў асаблівую ўвагу на неабходнасьць кансалідацыі сіл вучоных і царквы ў імя духоўнага адраджэньня й адзінства нацыі, паказаў пэрспектыву магчымых кантактаў, адзначыў неабходнасьць стварэньня аб'ектыўнай, сапраўды навуковай гісторыі царквы на Беларусі і ролі ў гэтай працы, распачатай Скарынаўскім цэнтрам. Станоўчую ролю Праваслаўнай Царквы ў жыцыі Беларусі на працягу гісторыі адзначыў Прэзыдэнт Акадэміі Навук Беларусі Л.М.Сушчэня. Зь вялікай увагай слухалі вучоныя і сьвятары даклад пратаярэя а. Сяргія Гардуна «Тысягадовы шлях Праваслаўя на беларускай зямлі». Дакумэнтальнае сьведчаньне Праваслаўнае царквы аб яе жыцьці і трагічным лёсе на працягу гісторыі, яе непарыўнай сувязі з жыцьцём народу гучала вельмі актуальна на фоне сучасных скажаючых гістарычныя факты публікацыяў аб канфэсыйным жыцьці Беларусі. Зь вялікім спаўчуваньнем прыняла аўдыторыя вельмі шчырае й яскравае выступленьне сп. М.Гайдука (Польшча) «Праваслаўная царква на Беласточчыне» — аб ганеньнях, акаталічаваньні і калянізацыі, аб ролі Праваслаўнай царквы для выратаваньня беларусаў, як нацыі. Гэта было гарачае сьведчаньне верніка і чалавека глыбокіх ведаў з гісторыі сваёй царквы— праўдзівы, жывы голас царкоўнага жыцьця. Цікавых дакладаў было шмат, але галоўнае—канфэрэнцыя і сам юбілей спрыялі аб'яднаньню сіл багасловаў, гісторыкаў, філёзафаў, мастацтвазнаўцаў, філёлягаў, вернікаў і тых, хто толькі шукае дарогу да Бога. Нібыта зьнікла нейкая сьцяна паміж нашымі навукоўцамі і царквою. Назвычайна і прыемна было бачыць у прэзыдыюме на навуковай канфэрэнцыі ў залі былой савецкай Акадэміі Навук мітрапаліта, япіскапа-рэктара сэмінарыі побач з прэзыдэнтам АН, старшынёй камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі і захаваньню культурнай спадчыны, вучоных і сьвятароў.

Юбілей быў адзначаны выстаўкамі: у экзархаце экспанавалася цікавая графічная

сэрыя вядомага беларускага мастака А. Кашкурэвіча (выявы беларускіх сьвятых, евангельскія сюжэты), у Мастацкім музэі Беларусі выстаўка мастака Я.Ждана, у Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі— кніжна-ілюстратыўныя выстаўкі «Гісторыя Праваслаўя ў Беларусі» (1000 год Полацкай япархіі), у файе тэатра опэры і балета вялікая фотавыстаўка з жыцьця Праваслаўнай Царквы Беларусі і сэря акварэляў аб Жыровіцкім манастыры, у Полацкай бібліятэцы Ф.Скарыны—выстаўка аб старажытным Полацку— маст. Г.Лебедзева. Вялікай папулярнасьцю карыстаўся шырока наладжаны продаж праваслаўных кніг, што падрыхтавала Беларуская Царква, а таксама даслалі Маскоўскі патрыярхат, кніжная суполка «Прамень Сафіі». Да сьвята былі зроблены юбілейныя значкі, керамічныя плакеткі-сувэніры з выявай Крыжа прэп. Еўфрасіньні, царквы ў старажытным Заслаўі, выдадзена паштовая марка. Напярэдадні юбілею ў экзархаце адбылася вялікая прэс-канфэрэнцыя мітрапаліта Філарэта з удзелам гісторыкаў і адміністрацыі г. Полацка і Заслаўя, на якой прысутнічала шмат журналістаў ад радыё, тэлебачаньня, часопісаў і газэт.

Але ўсё гэта толькі падрыхтоўка, грамадзкае гучаньне царкоўнага юбілею. Галоўнае—надзвычай урачыстае, узьнёслае царкоўнае ўшанаваньне 1000-годзьдя Праваслаўя на роднай зямлі—пачалося малебнам у Менскім катэдральным Саборы Сьвятога Духа. Службу правіў мітрапаліт Філарэт з гасьцямі —ярархамі і саборным клірам. Цудоўна сьпяваў вялікі архіярэйскі хор. Пад мілагутны трапар *«на водах Сьвіслачы явілася ест Отроковіца.»* дакраналіся пастыры і народ да цудатворнай Менскай іконы Богамаці і сьв. мошчаў сьв. праведнай Сафіі, князёўны Слуцкай.

Раніцай 25 адбылася канфэрэнцыя ў АН Беларусі. Вечарам—урачысты акт у Вялікім акадэмічным дзяржаўным тэатры опэры і балета Беларусі. Ён пачаўся сьпевам трапара Менскаму абразу Божай Маці і Сабору Беларускіх сьвятых і словам мітрапаліта Менскага і Слуцкага, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Экзарх зьвярнуў увагу на супадзеньне юбілею са сьвятам Узьвіжаньня, на жыватворную моц Крыжа Господня ў адраджэньні чалавечых душ і народаў.

Пасьля пачаліся прывітаньні —Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі С.С. Шушкевіча, гасьцей з розных канцоў сьвету—з Расеі, Украіны, Балгарыі, Польшчы, Нямеччыны, Фінляндыі, Англіі, Амэрыкі, Канады, Афрыкі, Бліжняга Ўсходу.

Асаблівую ўвагу выклікала слова Экзарха ў Эўропе Ўсяленскага Канстантынопальскага партрыярха Варфаламея I мітрапаліта Швэйцарскага Дамаскіна. Беларускую царкву віталі старажытныя ўсходнія патрыярхаты: Александрыйскі (япіскап Кірынейскі Феодар), Антыяхійскі (япіскап Філіппапольскі Міфан), ад Патрыярха Маскоўскага й усяе Русі Алексія II архіяпіскап Тамбоўскі Аўгеній, мітрапаліт Паўночнай Амэрыкі і Канады Фэадосій, монсін'ёр доктар Альберт Раух з Нямеччыны, архіяпіскап Беластоцкі і Гданьскі Савва з Польшчы, прадстаўнікі БАПЦ, Балгарскай Украінскай і Амэрыканскай цэркваў, Маскоўскага патрыярхата ад Біблейскіх суполак, старшыня Аб'яднаньня Беларусаў Канады Мікола Ганько й інш.

Прыйшло шмат тэлеграм, у тым ліку ад першаярарха БАПЦ Мікалая з Канады. Сардэчна гучалі словы брацкай радасьці і прывітаньні на родных мовах народаў, што шмат вякоў аб'яднаныя праваслаўнаю вераю.

Вераю і надзеяй поўніўся сьпеў кандака сабору Беларускіх сьвятых (хор Менскага катэдральнага сабору), якім закончыўся ўрачысты акт.

Узьняўся занавес прыгожага, з густам аформленага тэатру. Галоўным элементам дэкору сталася эмблема Сьвята—сьв. Крыж Еўфрасіньні Полацкай, так званы Патрыяршы крыж.

Загучалі малітвы і пачаўся сьвяточны канцэрт. У час літаратурна-мастацкага пралогу на сцэне зьявіліся постаці сьв.князя Ўладзіміра, Ізяслава, Рагнеды—Анастасіі, прэп. Еўфрасіньні Полацкай, доктара Скарыны, урачыста гучалі іх маналёгі, музыка. З глыбокім пачуцьцём прачытаў артыст напісаныя крывёю сэрца радкі з «Плача аб царкве» Афанасія Берасьцейскага. Гучалі «Зорка Венэра», «Мой родны кут», народныя мэлёдыі.

А наперадзе было галоўнае—сьвяткаваньне ў Полацку, літургія ў сьв. Сафіі. Раніцай 26 верасьня некалькі аўтобусаў з гасьцямі і ўдзельнікамі ўрачыстасьцей (адных ярархаў і сьвятароў было 2 аўтобусы) паехалі ў старажытнае Заслаўе, дзе адбылося асьвячэньне памятнага крыжа-каменя і малебен ля яго, а пасьля казаньні ля Спаса-Праабражэнскай царквы. Быў цудоўны сонечны дзень, шэрагі школьніц зь белымі бантамі ў валасах, сьвяточных карункавых фартушках падносілі кожнаму прыгожыя кветкі. Кветкамі была пасыпана ўся дарога да крыжа. Ён на ўзгорку—магутны валун з акруглымі формамі крыжа, а ў яго ўстаўлены тонкі мэталічны «еўфрасіньнеўскі».

У руках усіх загарэліся сьвечкі. Гучалі малітвы, словы мітрапаліта, пропаведзь маладога сьвятара аб Крыжы Господнім—нашым выратаваньні, аб Крыжы роднай Беларусі.



Крыж, асьвечаны 26 верасьня ў Заслаўі.

І ля царквы і на плошчы — усюды добрыя словы, усьмешкі. Адчувалася, што мясцовы малады сьвятар а.Мікалай і кіраўніцтва гораду—усе шчыра рыхтаваліся да сьвята, як падзеі надзвычайнай.

Далей па дарозе на Полацак ячшэ адзін прыпынак—прыгожыя дзяўчаты ў нацыянальных сукенках сустракалі ўсіх караваем. Гучалі цымбалы дзявочага аркестра, сьпевы. У Полацку адразу наведалі Спаса—Еўфрасіньнеўскі манастыр. Праз цэлы двор аж да Спаса-Еўфрасіньнеўскай царквы пакладзены дыван з травы і кветак. Паабапал шляху манахіні, паслушніцы сьпяваюць цудоўны спеў трапара прэп. Еўфрасіньні. Госьці прыклаліся да сьв. мошчаў і пачалася сьвяточная ўсяношная ў вялікім пяціку-пальным саборы Ўзьвіжаньня Крыжа Господня, што нядаўна ўзьняўся з руінаў. Цудоўнае богаслужэньне з удзелам мітрапалітаў, япіскапаў, шматлікіх вернікаў.

27 верасьня адбыліся тры сьвяточныя літургіі — дзьве ў манастыры і галоўная ў Сафійскім саборы. Цяжка апісаць гэтую радасьць і прыгажосьць, бізантыйскую ве-

ліч богаслужэньня, асабліва калі пад цудоўны старажытны сьпеў у сабор увайшоў экзарх Уселенскага патрыярха Дамаскін зь іншымі ярархамі. Велічны, павольны крок, урачыстасьць постаці, рухаў.. Адчуўся подых старажытнай Бізантыі, калі там, у Канстантынопальскую Сафію ўваходзілі патрыярх і імпэратар... Мусіць так ішлі ў старажытную Сафію і першыя япіскапы. Загучалі грэчаскія словы малітвы экзарха, што адпраўляў літургію, славянскія сьпевы, дзіўная прыгажосьць і гармонія. Дарэчы, у час службы ў Сафіі неяк па-асобаму адчулася прыгажосьць гэтага духоўнага й эстэтычнага адзінства: грэчаская, а ў большасьці сваёй славянская мова богаслужэньня, і беларуская мова пропаведзей—гісторыя і сучаснасьць.

Пасьля Божай літургіі адбыўся вялікі Крыжавы ход. Гэта было нешта надзвычайнае—мора народу. Доўгая працэсія праз горад у Спаса—Еўфрасіньнеўскі манастыр. Магутны сьпеў сьвятароў. У першым шэрагу пасьля іх старшыня беларускага парлямэнту, другія афіцыйныя асобы. Манастыр сустрэў сьвяточным звонам. Працэсія прыпынілася ў брамы. Гэта быў дзіўны момант: белыя сьцены манастыра, белы, з залатымі купаламі, гмах сабора, цішыня і звон...

Вынас сьв. мошчаў прэп. Еўфрасіньні, малітва, зьвернутыя да народу словы ярархаў, у якіх гучалі шматвекавая моц і веліч праваслаўя, клопат царквы аб духоўным адраджэньні народу, памяць аб яго цяжкім шляху і надзея на ласку Божую да Беларусі. Віталі народ са сьвятам і афіцыйныя асобы. Доўга не разыходзіліся вернікі, падыходзілі прыкланіцца да сьв. мошчаў Еўфрасіньні.

Пасьля ў трапезнай манастыра адбылася цікавая прэс-канфэрэнцыя, а вечарам у рэстаране вялікі прыём. Гучалі пажаданьні, тосты, «Многае лета». Хочацца нагадаць адзін вельмі кранаючы момант, калі мітрапаліт Філарэт узняў здравіцу за старэнькага сьвятара а. Антонія Дзевятоўскага (з Гайнаўкі), які ў час другой сусьветнай вайны, пры немцах адслужыў апошнюю літургію ў Сафійскім саборы... І вось дачакаўся сьвятога дня —літургіі ў Сафіі.

І яшчэ хочацца сказаць аб словах Станіслава Шушкевіча, які падкрэсьліў, што сьвята 1000-годзьдзя Праваслаўя ў Беларусі—гэта нашыя карані, што мы зараз розныя, але гісторыя нашая адна і пачатак вось тут, у Полацку. І яшчэ ён адказаў на заклапочанасьць прадстаўнікоў замежных праваслаўных цэркваў і нашых айчынных аб звароце вернікам старажытнай праваслаўнай сьвятыні Полацкай Сафіі, аб недарэчнасьці выкарыстоўваньня яе не па прызначэньню. Старшыня парлямэнту казаў, што, як асоба, ён шчыра разумее клопат боль і абгрунтаванасьць просьбы аб звароце, але, як дзяржаўны дзеяч, мусіць лічыцца з абставінамі і просіць крыху пачакаць, пацярпець, каб усё мірам вырашыць.

Сьвята скончылася, але плён яго застаўся. Ён у кансалідацыі народу. Гэта асабліва адчувалася ў Полацку, калі столькі розных людзей прыйшло на сьвята Праваслаўя. Чулася, што дух праваслаўны жыве ў беларусаў, і да нацыянальных сьвятыняў цягнуцца душы і тых, хто яшчэ не прыйшоў у царкву. Гэта, мусіць, адчувалі і ўлады. Па сутнасьці, упершыню вось так прадстаўнікі ўраду ішлі разам з народам на яго сьвята. Назаўсёды застанецца ў памяці гэты народны ход, Крыж, харугвы і мора людзей ля белых сьцен манастыра, гучаньне званоў, да якіх прыслухоўваліся з надзеяй...

Дзякуй Богу!



# НАША ГІСТОРЫЯ



## Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў

Міхась Белямук

Дасьледчыкі гісторыі Беларусі пэрыяду IX—XII стст. маюць вялікія цяжкасьці, бо пісьмовых крыніцаў мала, а беларускіх амаль зусім няма. У XX ст. пачаліся археолягічныя раскопкі, яны далі дасьледчыкам новыя матэрыялы. Мы пачалі крыху ўяўляць жыцьцё нашых продкаў, якое не запісана на пэргаменьце і паперы. Аднак асаблівую цікавасьць выклікаюць знаходкі манэтаў і рэчаў залатых, сярэбраных, пазалочаных, пасярэбраных і шклозалочаных, шклосярэбряных пацерак, у якіх у сярэдзіне залатая ці сярэбраная фольга, звонку пакрытая шклом. Знойдзеныя манэты сьведчаць, што трапілі яны на нашыя землі пераважна праз гандлёвыя сувязі. Рэчы з шляхотных мэталаў таксама завезеныя да нас гандлярамі, але калі яны зробленыя мясцовымі ювелірымі, то стапілі манэты, каб зрабіць аздобу. Не выключана, што нейкая частка манэтаў і рэчаў была прывезена як вайсковая кантрыбуцыя. Паколькі Беларусь ня мела капальняў золата і срэбра, то плаўленьне манэтаў залатых і сярэбраных для вырабу аздобаў адбываецца з IX ст. да сучасных дзён. Злачынствам ёсьць, калі знойдзеныя манэты разыходзяцца па людзях, абмінаючы дасьледчыкаў—нумізматаў. Такія манэты гінуць для навукі, як гінулі пісьмовыя помнікі ў полымі пажараў. Нягледзячы на жахлівы лёс нашых манэтных скарбаў, нам пашчасьціла расшукаць у розных часопісах, газэтах інфармацыю аб знойдзеных манэтах. Гэта дапаможа азнаёміць грамадзтва з значэньнем таго вялікага патэнцыялу нашых продкаў у IX—XII стст.

За мяжой Беларусі знаходзяцца дзесяткі тысяч манэт неапісаных, яны ў дзяржаўных і прыватных зборах, іх трэба расшукаць і апісаць, калі гэтыя манэты і рэчы знойдзеныя на этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі. У Беларусі мы маем калекцыянераў і іх калекцыі не апісаны таксама. Усе калекцыі трэба апісаць і апублікаваць.

Часопіс «Полацак» пачынае публікацыю знаходак манэтаў і рэчаў ад 1-га ст. да 1200 г.. Пачынаем з Віцебскай вобласьці у альфабэтычным парадку. Пасьля апублікаваньня знаходак у вобласцьях пачнем публікацыю скарбаў, знойдзеных на тых нашых землях, якія без нашага ведама былі аддадзены суседзям.

Публікаючы разьдзеламі тапаграфію знаходах манэт і аздобаў, спадзяемся, што гэтым зацікавім маладых навукоўцаў, і яны пачнуць праверку нашых публікацыяў, дапаўняючы іх сваімі інфармацыямі. Мы просім дасылаць гэтыя інфармацыі на адрас часопіса «Полацак», а таксама Вашыя заўвагі, удакладненьні. Мы плянуем друкаваць усе новыя зьвесткі на старонках часопіса. Такім чынам, паступова будзем супольна працаваць над тапаграфіяй знаходак Беларусі, поўны сбор якіх мы маем намер выдаць асобнай кнігай, «Тапаграфія». якая паслужыць далейшаму дасьледваньню і аналізу гісторыі Беларусі.



## *Віцебская вобласьць*

***Абрамава**, Верхнядзьвінскі р-н.*

Недалёка ад дарогі Асьвея-Полацак каля в.Абрамава знаходзіцца група курганоў. У 1974 г. З.Сяргеева з М.Савіцкім раскапалі 5 курганоў, знайшлі шклозалочаныя і шклосрэбраныя пацеркі XI—XII стст.

*Сяргеева... б. 396, Яніцкая... б. 134, ЗПГКБ Віцебская вобл. №556.*

***Антавіль**, Аршанскі р-н*

у 1918 г. нямецкія жаўнеры знайшлі на беразе р. Аршыцы скарб арабскіх манэтаў, ня менш 10 діргемаў. Ад жаўнераў Т.Хвіліцкі купіў 2 діргемы, якія паказаў Р.Фасмэру і Р.Фасмэр іх расчытаў.

| | | |
|---|---|---|
| **Саманіды.** | **Ізмаіл ібн Ахмад.** | **Самарканд 897-8** |
| **" "** | **Ахмад ібн Ізмаіл** | **Андараба 911-2** |

*Фасмер ...б.290, №47*

*Аршанскі р-н*

У нумізматычную літаратуры пранікла недакладнасьць, што ў1822 г. знайшлі вялікі скарб у «Магілёўскай губэрні». Паколькі ў 1973 г. былі апублікаваныя лісты Я.Лелевеля да Ф.Руцкага, маем цяпер мажлівасьць мясцовасьць і час удакладніць.

Скарб быў знойдзены восеньню 1822 г. каля Воршы. Частка манэт была сплаўлена на чашу царкве, тры манэты трапілі ў Вільню (адна Я.Лелевелю, дзьве праф. М.Поклінскаму), каля 2000 цэлых і манэтных абломкаў П.Савельеў купіў на рынку ў Маскве. Прывёз манэты магілёўскі мешчанін. Мажліва, частка манэтаў разыйшлася па руках мясцовага жыхарства.

Я.Лелевель у 1824 г. апублікаваў артыкул і залучыў малюнкі 2 манэтаў. Легенды на манэтах Я.Лелевель не змог расчытаць, але не памыліўся ў ацэнцы, што яны сасанідзкія (пэрскія). Колендо Е. зьвярнуўся ў Брытанскі музэй да Ніколы Ловіцк з просьбаю расчытаць апублікаваныя Я.Лелевелям манэты, Н.Ловіцк выканаў просьбу.

| | | |
|---|---|---|
| **Сасанідаў** | **Хосроў II** | **Гамадан 615 г.** |
| **Арабско-сасканідзка** | **Зіяд ібн Абі Суфян** | **Дарабджер 672-3** |

*Савельев... б. 25-26, №17, J.Kolendo... б. 72-73.*

Купленыя П.Савельевым манэты агледзеў арыенталіст Х.Фрэн і даў кароткае іх апісаньне, якое П.Савельеў і А.Маркаў дапоўнілі ў сваіх справаздачах. Яны кажуць, што ў купленым скарбе было 1300 цэлых манэтаў, а палавінак і чацьвярцінак было некалькі сотняў. Аднак В.Грыгорьеў у 1844 г. пісаў, што палавінах і чацьвярцінак было больш як цэлых манэтаў. Адкуль ён гэтую інфармацыю атрымаў няведама, адно можна сказаць, што, праўдападобна, паламаных манэтаў ніхто не лічыў. Важылі манэты больш за 7 фунтаў. Па рэкамэндацыі Х.Фрэна Акадэмія Навук ад П. Савельева 250 манэт купіла, што з рэштай сталася вестак няма.

А. Маркаў піша: «большинство монет было испегбедских одноязычных и двуязычных, число которых доходило до нескольких сот штук... двуязычныя, плегвийско-арабские относились к УШ и началу IX века».

Інфарамацыя вельмі цікавая, калі далучыць да яе паведамленьні Я.Лелевеля і Е.Коленды. Іспегбедзкія манэты—гэта манэты Сасанідаў. Дынастыя Сасанідаў панавала 420 год і стварыла імпэрыю ад ракі Інда да ракі Эўфрата, але арабскія каліфы дынастыі Омаядаў у працягу чатырох год (637-641 гг). заваявалі Сасанідзкую дзяржаву. Омаядзкія каліфы наставілі ў былой сасанідзкай дзяржаве сваіх намесьнікаў ці губэрнатараў з правам чаканіць манэту. Манэты чаканіліся па ўзору сасанідзкіх, але былі ў двух мовах—плегвейскай і арабскай. Паводля А.Маркава арабска-сасанідзкія былі з УШ ст., але Я.Лелевель апублікаваў 2 манэты, адна была Сасанідаў з 615 г., другая была арабска-сасанідзкая з 672-3 г. Адсюль мы можам унесьці папраўку адносна арабска-сасанідзкіх манэтаў, што ў скарбе каля Воршы былі двуязычныя манэты з 672 г. і пачатку IX ст.

Омаяды ня толькі заваявалі дзяржаву Сасанідаў, але падпарадкавалі паўночную Афрыку і Гішпанію. Омаядзкія каліфы свайго імя на манэтах не чаканілі, але ставілі год і месца чаканкі діргема, гэтак называлася арабская сярэбраная манэта. Некаторыя нумізматы арабскія діргемы называюць куфіцкімі. А. Маркаў кажа, што **омаядзкія діргемы былі з 699 —749 гг**, а гэта значыць, што діргемы былі пачынаючы ад 5 омаядзкага каліфа **аль-Малік (685-705)** і да апошняга 14-га омаядзкага каліфа **Марвана II (744-750)**. **Омаядзкія намесьнікі Афрыкі** атрымалі права чаканкі діргемаў, іх **манэты былі з 727-731 г., а омаядзкіх намесьнікаў Гішпаніі**, таксама мелі права чаканіць **діргемы, з 728-736 г.**

У 750 г. дынастыя Абасыдаў захапіла ўладу ў свае рукі і панавала да 1075 г. Абасыдзкія каліфы з 1075 г. да 1258 г. мелі намінальную, нерэальную ўладу. Каля Воршы ў скарбе былі діргемы Абасыдаў, абасыдзкіх намесьнікаў паўночнай Афрыкі, Ідрысыдаў і гішпанскіх Омаядаў. **Абасыдзкія діргемы ў скарбе былі з 750-815 гг**., гэта азначае, што былі діргемы, пачынаючы зь першага **абасыдзкага каліфа ас-Сафаг (750-754)** і да сёмага **абасыдзкага каліфа аль-Мамуна (813-833)**. Діргемы **абасыдзкіх намесьнікаў паўночнае Афрыкі былі з 768-799 гг.**

Сучаснае Марока, а ў тыя часы Магрэб, палітычна ўнезалежніўся і чаканіў сваю ўласную манэту, дзякуючы дынастыі Ідрысыдаў. **Діргемы Ідрысыдаў**, што былі ў скарбе, **з 789-802 гг. чаканены Ідрысом І і Ідрысом II у гарадох Бадаа (Туджа) і Валіла**.

У Гішпаніі Абд ар-Рагман, унук дзесятага омаядзкага каліфа Гішама стаў заснавальнікам омаядзкай дынастыі на Пірэнэйскім поўабтоку. **Діргемы гішпанскіх омаядаў**, якія былі ў скарбе , **ёсьць з 767-802 гг**., сведчаць, што гэта діргемы **Абд ар-Рагмана (756-788) і аль-Гакама (796-822)**. На гішпанскіх омаядзіх діргемах маецца напіс Андалюзія, што значыць Кордоба, якая была сталіцай і месцам чаканкі діргемаў.

П.Савельеў і А.Маркаў пералічаюць гарады—манетніцы, у якіх чаканіліся діргемы Омаядаў і Абасыдаў, але не называюць колькасьці діргемаў, адчаканеных у кожным горадзе. Мы для лягчэйшай ар'ентацыі, дзе горад знаходзіўся падаем сучасны назоў дзяржаваў.

| | |
|---|---|
| *Туніс* | *аль Абасія, Іфрыкія* *(сучасны Койруан)* |
| *Афрыка* | *Мубарэк* |
| *Егіпіет* | *Місра* *(сучаны Каір)* |
| *Саўд Арабія* | *Сіса, Хаджір* |
| *Іемэн* | *Санаа* |
| *Сырыя* | *Дамаск, Гарунія* |
| *Ірак* | *Джэзіра, Каср аль-Салям, аль-Басра, Багдад, Васіт, аль-Куфа* |
| *Арменія* | *Армінія* *(Дабіл, у тыя часы сталіца Арменіі),* *Мадэн Баджунэс* |
| *Азэрбайджан* | *Аран* *(сучасны Карабах, на діргемах абазначае сталіцу Бардаа)* |
| *Іран* | *Амул, Ардэшір—Хура, Гамадан, Дарабджэр, Джунд-і-Сабур, Істарх, Зенджан, Мерв, Рамгормуж, аль-Мухамедыя* *(старая назва Рэй),* *Сурак, Таймера.* |
| *Афганістан* | *Балх, Зерадж* |
| *Узбекістан* | *Самарканд* |

*Савельев... б.26, Грыгорьев... б.137—138, Марков... б.25, № 141.*

*Аўсянікі,* *Чашніцкі р-н*

У 1888 г. Е.Раманаў раскапаў каля вёскі тры курганы, у іх знайшоў розныя медзяныя і бронзавыя азодбы, але паміж імі былі прадметы сярэбраныя. У першым кургане быў сярэбраны пярсьцёнак, у другім кургане была сярэбраная арнамэнтаваная падвеска, у трэцім 2 сярэбраныя драцяныя завушніцы.

*Раманаў... .б. 150-151, Аляксееў... б.291, зн. № 103, Яніцкая... б.134-136.*

*Афераўшчына,* *Ушацкі р-н*

Лявон Побаль праглядаючы рукапісныя паперы В.Шушкевіча ў Польшчы, адшукаў паведамленьне, што быў знойдзены жбан з сярэбранымі нашыйнікамі адным селянінам падчас перакопываньня зямлі ў агародзе. Ф.Варэнко купіў 2 нашыйнікі й адзін праз В.Шушкевіыча перадаў Кракаўскаму музэю. Адзін нашыйнік меў дыяметр 229 мм і таўшчыню 10 мм, другі— дыяметрам 205 мм меў таўшчыню 8 мм.

Паколькі Ф.Варэнко памёр 1909, а В.Шушкевіч 1919 г., то знаходка скарбу з нашынікамі магла адбыцца не пазьней 1909 г.

*Побаль... б.116-117.*

*Ахрэмцы,* *Верхнядзвінскі р-н*

У 1882 г. вясковыя хлопчыкі заўважылі ў абрыве рэчкі Дрыса сярэбраныя манэты. Колькасьць знойдзеных манэт дакладна невядомая. Археолягічныя Камісія атрымала 24 арабскія діргемы, якія коратка апісаў В.Тызенгаўзэн, гэта былі діргемы Омаядаў, Абасыдаў і Тагірыдаў. Абасыды, прыйшоўшы да ўлады замянілі омаядзкіх намесьнікаў сваімі губэрнатарамі ў правінцыях, але паступова назначаныя губэрнатары пачалі ўнезалежнівацца ад абасыдзкага каліфа ў Багдадзе. Гэтак губэрнатар Тагір правінцыі Гурашан (у Іране) чаканіў свае ўласныя діргемы, ягонай сталіцай быў Мерв.

Мы будзем падаваць дынастыю, горад дзе манэта чаканена і год чаканкі. Паколькі арабскі год (хіджра) карацейшы, 34 арабскія гады роўныя 33 годом нашым, а на арабскіх діргемах адзначана хіджра, то ў пераліку на наш год падаецца і год наступны

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Омаяды** | **Васіт** | **Ірак** | **741** | ***Валід II*** | **1діргем** |
| **Абасыды** | **аль-Куфа** | **Ірак** | **751-2** | **ас-Сафаг** | **1д.** |
| " | **аль-Куфа** | **Ірак** | **761-2** | **аль-Мансур** | **1д.** |
| " | **Багдад** | **Ірак** | **771-2** | **аль-Магді** | **1д** |
| " | **аль-Мухамедыя** | **Іран** | **778-9** | **аль-Магді** | **1д** |
| " | **Багдад** | **Ірак** | **795-809** | **ар-Рашід** | **6д** |
| " | **Балх** | **Афганістан** | **802-3** | **ар-Рашід** | **1д** |
| ' | **аль—Мухамедыя** | **Іран** | **787-807** | **ар-Рашід** | **3д** |
| ' | **Нісабур** | **Іран** | **810-1** | **ар-Рашід** | **1д** |
| ' | **Самарканд** | **Узбекістан** | **808-9** | **ар-Рашід** | **1д** |
| ' | **аш-Шаш (Ташкент)** | **Узбекістан** | **805-6** | **ар-Рашід** | **1д** |
| ' | **Багдад** | **Ірак** | **811-813** | **аль-Амін** | **2д** |
| ' | **Ісбаган** | **Іран** | **816-7** | **аль-Амін** | **2д** |
| **Тагірыды** | **Ісбаган** | **Іран** | **852-3** | ***Тагір II*** | **1д** |
| ' | **Мерв** | **Іран** | **845-858** | ***Тагір II*** | **2д** |

*Маров... б.3, № 12*

***Багрынава**, Талачынскі р-н*

На заходнім беразе рэчкі Крывой знаходзілася 24 курганы. У 1967 г. З.Сяргеева раскапала 4 курганы. У кругане № 2 быў пахаваны мужчына, на поясе была падковападобная сярэбраная пражка. У кургане №3 пахаваня жанчына, каля галавы былі 6 скранёвых сярэбраных кольцаў з завязанымі канцамі. У кургане №4 таксама была пахаваня жанчына і каля галавы знайшлі скранёвае сярэбранае кольца. У курганах з жаночымі пахаваньнямі знайшлі шклозалочаныя пацеркі. Знойдзеныя рэчы з XI ст. сьведчаць, што жылі тут крывічы.

*Сергіева... б.108, ЗПГКБ Віцебская вобл, №2299, Алексеев... б.257*

**Багрынава**, Талачынскі р-н

У 1969 г. З. Сяргеева дасьледавала 2 курганы і знайшла 6 скранёвых кольцаў з сярэбранага дроту. Каля галавы знойдзены 4 зь дзірачкамі діргемы, якія агледзела С.Яніна.

Діргемы былі дынастыі Саманідаў, якая спачатку панаваньня Абасыдаў атрымала губэрнатарскія назначэньні і паступова багацела. Атрымаўшы ў адміністрацы Трансоксанію (Узбекістан), так разбагацелі, што пачалі пачувацца незалежнымі ўладарамі і чаканілі сваю ўласную манэту.Знойдзеныя діргемы саманідаў былі:

| | | |
|---|---|---|
| **Саманіды** | **Ізмаіл ібн Ахмад** | **906-7** |
| " | **Ахмад ібн Ізмаіл** | **913-4** |
| " | **Мансур ібн Нух** | **966-7** |
| " | **Мансур ібн Нух** | **968-9** |

*Сяргеева... б.61 ЗПГКБ Віц. №2299*

***Багушэўск***, *Сенненскі р-н.*

У 1958 г. у былым Багушэўскім р-не быў знойдзнеы скарб арабскіх манэт. Манэты разыйшліся па руках, толькі 5 дігремаў зьбераглося ў прыватнай калекцыі І .Галькевіча.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Абасыды** | **аль-Мухамедыя** | **Іран** | **798-9** | **ар-Рашід** |
| " | **Не расчытана** | | **809-0** | **аль-Амін** |
| " | **Багдад** | **Ірак** | **810-1** | **аль-Амін** |
| " | **Аран (Бардаа)** | **Азэрбайджан** | **823-4** | **аль-Мамун** |
| " | **аль-Мухамедыя** | **Іран** | **813-4** | **аль-Мамун** |

*Рабцэвіч і Стуканаў... б. 34, №3*

***Баева,*** *Дубровенскі р-н*

У 1901 г. селянін Руфаў знайшоў скарб, падчас палявых работаў. Гэты «замечательный клад 1210 серебряных восточных монет относится к IX—X вв.» Манэты былі пасланыя ў Магілёў, апісаньня скарбу няма. Мы прыпушачаем, што гэта былі арабскія діргемы.

В Крапоткін публікаючы свой сьпіс манэтных знаходкаў кажа, што знайшлі ў вёсцы Любонічы, Кіраўскага р-на, Магілёўскай вобл. Аднак ён не ўзяў пад увагу, што ў паведамленьні Археолягічнай камісіі называецца ўезд Горкі, воласьць Баева. Вёска Баева ёсьць сельсаветам воб. Віцебскай. На карце генеральнага штабу каля вёскі Баева быў засьценак (пара хатаў) Любанічы, дзе былі праўдападобна знойдзны манэты. У дадатак да гэтага, ваколіца Воршы даволі багатая на знаходкі арабскіх діргемаў.

У 1936 г. у саўгасе «Соболева», вёска Баева, Дуборвенскага р-на, у полі падчас палявых работаў знайшлі гліняны гаршочак напоўнены сярэбранымі манэтамі. У гаршочку былі цэлыя і паламаныя манэты каля 2000 штук. Чамусьці ў Эрмітаж паслалі 307 манэтаў і гаршочак, праўдападобна рэшту разабрала начальства. Працаўнік Эрмітажу К.Кузьняцоў толькі ў 1949 г. паведаміў у кароткай справаздачы, што Эрмітаж атрымаў 138 цэлых і 168 паламаных діргемы, бо дзьве палавінкі аказаліся аднае манэты.

В.Кропоткін у сваім сьпісе падае, што найстарэйшая манэта прысланага ў Эрмітаж скарбу ёсьць з 783 г., але тут памылка або апіска. Найстарэйшай манэтай ёсьць діргем: **Омаяды, чаканены 710-1 г., Керман** (правінцыя Ірану, сталіца Сірджан, дзе чаканіліся діргемы) Омаядзкіх діргемаў было 25. Рэшта манэт абасыдзкія. К.Кузьняцоў кажа, што яны належаць першым дзесяці абасыдзкім каліфам, пачынаючы з ас-Сафага (750-754) і канчаючы каліфам аль-Мутавакілям (747-861). Найболей діргемаў каліфа ар-Рашіда (786-809), іх у прысланым скарбе было 78 штук. Діргемы былі чаканеныя ў гарадах:

| | |
|---|---|
| **Туніс** | **аль-Абасія, Іфрыкія,** (сучасны Койруан) |
| **Ірак** | **Багдад аль-Басра, Васіт, аль-Куфа, ар-Рафіка, Самія, Сураманра, Сук-аль—Агваз** |
| **Арменія** | **Армінія** (правінцыя, сталіца Дабіл) |
| **Іран** | **Амул, Дарабджер, Ісбаган, Керман** (правінцыя, сталіца Сірджан), **аль-Мухамедыя, Мерв, Рэй** (стары назоў аль-Мухамеды), **Сурадін Абершэгр, Фаріс** (правінцыя, сталіца Шіраз) |
| **Афганістан** | **Балх, Герат, Зерандж** |
| **Узбекістан** | **Бухара, Самарканд, аш-Шаш** (стары назоў Ташкенту) |

Паводля К.Кузьняцова гаршочак з діргемамі быў закопаны не пазьней 870 г., калі тая рэшта діргемаў, што засталася ў жыхароў вёскі Баева чаканена першымі дзесяцьцю адбасыдзкімі каліфамі.

*Кузнецов...б. 155—156, Кропоткін.. б.92-93, №172, 185*

***Беразіно,*** *Докшыцкі р-н.*

Каля 1973 г. знайшлі арабскі діргем Абасыдаў, манэта перахоўваецца ў школьным мясцовым музэі.

*Рабцэвіч і Стуканаў... б.35, №13*

***Богіна,*** *Браслаўскі р-н*

У 1892 г. Ф.Пакроўскі раскапаў курган і знайшоў пры жаночым пахаваньні шклозалочаныя пацеркі, па кераміцы іх можна датаваць Х ст.

*Покровский.[2]..б.211 Яніцкая... б. 135, №14.*

***Богінскае*** *возера, Браслаўскі р-н.*

Ул. Плятар у 1886 г. і Ф.Пакроўскі ў 1895 г. праводзілі раскопкі курганнага могільніка на паўночна-ўсходнім беразе возера. У курганах знаходзілі шклозалочаныя пацеркі й арабскія діргемы Х ст.

Покровский .... б.6 Покровский[2] .... б.211-212

**Браслаў**

Каля 1930 г. Віленскі музэй атрымаў 2 залатыя манэты, якія былі знойдзеныя ў Браслаўлі ці каля Браслаўля. Ул. Антоневіч у 1930 г. гэтыя залатыя манэты аглядаў і апісаў іх. Гэта былі рымскія соліды (так называлася рымская залатая манэта). Адзін солід быў рымскага імпэратара Каруса, які панаваў **281-283** гг. Другі солід чаканены ў **Трір** (Нямеччына, верхня Лётарынгія) **Валента, які быў імпэратарам Усхдоняе Рымскае імпэры 364-378 гг**. Соліды маюць дзірачкі, значыць былі аздобамі, падвескамі. Уласьнікамі солідаў маглі быць багатыя асобы, або старшыні правіныцы.

*Antoniewicz... б.90-91, Крапоткін[2].. б. 97, № 1388*

*Побаль[3]... б.127. Рабцэвіч[2]... б.192, №29*

**Браслаў**

У 1955 і 1956 гг. Л.Аляксееў праводзіў раскопкі гарадзішча і знайшоў аздобы з XI ст., скранёвыя сярэбраныя кольцы і сярэбраны бранзалет.

*Аляксееў.... б. 39. і 40.*

***Відзы,*** *Браслаўскі р-н*

У 1879 г. у трох км ад мэстэчка Відзы на полі былі знойдзеныя манэты. Праваслаўны сьвятар Рослякоў 2 манэты прыслаў у Археолягічную Камісыю й аказалася, што гэта арабскія діргемы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Абасыды** | **Табарыстан** (правінцыя Ірану, сталіца Амул) | 807-8 | **ар-Рашид** |
| " | **Ісбаган** | **814-5** | **аль-Мамун** |

У А.Маркава памылка ў даце на 100 год, у яго 907-8 і 914-5гг.

*Марков...б.14, №77.*

***Віцебск***

У 1822 г. Віцебску быў знойдзен скарб арабскіх діргемаў, П.Савельеў піша, што ў скрабе «было множество монет», але іх разабралі, толькі 15 діргемаў зьбераглося, якія прыслалі, ў Акадэмію Навук. Діргемы былі чаканены ўX ст. дынастыямі **Саманідамі і Бувейгідамі.**

*Савельев...б.157, №21, Марков...б.3. №10*

***Віцебск***

У 1839 г. артылерысты віцебскага гарнізону папраўляючы ўмацаваньні выкапалі скарб, што меў арабскія діргемы, якія разабралі, але 7 манэтаў прыслалі ў Акадэмію Навук і Х.Фрэн дасьледываў манэты. Аказалася, што толькі 3 манэты цэлыя, а 4 абламаныя, діргемы чаканеныя трыма дынастыямі: Омаядамі, Абасыдамі і Тагірыдамі.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Омаяды** | | **724-743** | **каліф** | **Гішам** |
| **Абасыды** | | **750-754** | " | **ас-Сафаг** |
| " | | **754-775** | " | **аль-Мансур** |
| " | | **775-785** | " | **аль-Магді** |
| **Тагірыды** | **Мерв** | **834-5** | **эмір** | **Абдулах** |

Два абломаных діргемаў нельга было расчытаць

*Савельев... бв.28, № 21. Марков... б.3, №11*

***Віцебск***

У 1950 г. падчас будовы гасьцініцы «Дзьвіна» знайшлі манэты, якія рабочыя разабралі, таму колькасьць знойдзеных манэтаў ня ёсьць ведамая. Ведаем, што гэта былі арабскія діргемы і, праўдападобна, саманідзкія.

*Рабцэвіч і Суканаў... б.34, №1*

***Віцебск***

В.Крапоткін з спасылкаю на вядомага беларускага археоляга Ю. Штыхава піша, што каля 1960 г.у Віцебску былі знойдзеныя 2 арабскія діргемы каліфа **ар-Рашіда (786-809) і каліфа аль-Мамуна (813-833)**

*Кропткін... б.92, № 173.*

***Віцебск***

У 1963 і 1964 гг. Ю.Штыхаў праводзіў раскопы каля царквы Дабравешчаньня, пабудову якой адносяць да першай паловы XII ст. Падчас археолягічных раскопаў былі знойдзеныя аздобы з X—пачатку XI стст.: шклозалочаная і шклосрэбраныя пацеркі, таксама палавіну арабскага діргема УIII—IX ст.

*Штыхов.. б.35, 37*




*№ 1 — рымскі солід імпэратара Каруса.*
*№2 — Сасанідзкая драхма Хосроя II.*
*№3—рымскі солід імпэратара Валента.*

## Бібліяграфія


Л.В. Алексеев. Археологические памят-ники эпохи железа в среднем течении Западной Двины. зб. Труды Прибалтийской объеденеиной комплексной экспедиции. т.1, М., 1959,

Л.В. Алескеев, [2] Работы в древнерусском Друцке и его округе. АО за 1967 г, М. 1968

Л.В. Аляскееў[3] Старажытны Браслаў, Помнікі ГКБ, 1979, №4

Antoniewicz, W. Dwa zlote solidy rzymskie zpod Braslawia, WNA, 1930, t.XII,

Т.С. Бубенко. Исследования в Витебске АО за 1984 г. М. 1986 г.

Григорьев, В.В. О куфических монетах, УIII, IX, і отчасти УII і XI века, находимых в Россіи и Прибалтийских странах Зап. Одес. Об. Ист. і Др. Одесса 1844, т.1

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, Віцебская вобл. Мн.,1985.

Известия Арх. Комиссии, Прибавления к вып. 2 ,СПБ, 1902,

В.В.Кропоткин, Новые находки сосани-дских и куфических монет в Восточной Европе, НЭ, 1971, IX.

В.В.Кропоткин, [2] Клады римских монет на территории СССР. САИ, вып. Г-4-4, М. 1961.

В.Н.Кузняцоў, Сабалеўскі клад. Бесці АН БССР, сер. грам. навук Мн. 1949, №6, б.140-141.

J.Kolendo , Nieznany List J.Lelewela w sprawie odkrytego w 1822 r. kolo Orszy skarbu monet sassanidzkich i kufickich, WN, 1973, #64

А.Марков,Топография кладов восточ-ных монет (сасанидских и куфических) СПб 1910

Л.Д. Поболь, Древности Белоруссии в музеях Польши, Мн.1979

Л.Д. Поболь, [2] Археологические памятни-ки Белоруссии— железный век. Мн.1983

Л.Д.Поболь. [3] Рымскія манеты на тэрыторыі БССР, ВесціАН БССР, 1964, №2

Ф.В.Покровский, Археологическая карта Виленской губерни. Труды....IX Археоло-гического съезда в Вильне 1893 г. М., 1895.

Ф.В.Покровксий,[2] Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии ТР. IX АС в *Вильне* 1893, т. 1, В;1895.

Е.Р.Романов, Раскопки в Могилевской губерни в 1888 г. Древности: Тр.Московского археологического общества. М.1889 т.XIII, в. 1.

В.Н.Рабцэвіч, А.А.Стуканаў, Манеты арабскага халіфата на тэрыторыі Беларусі, Помнікі ГКБ, Мн., 1973, №4

В.Н.Рябцевіч, Находкі античных монет на территории Белорусии, зб. Вопросы истории, Мн. 1968

Савельев П., Мухаммеданская нумизматика...СПБ, 1847.

З.М.Сергеева, М.Г. Савицкий, Работы на Освейщине, АО за 1974, М. 1975

З.М. Сергеева, [2] Курганы у дер. Багриново вблизи древнерусского Друцка (БССР), КСИИМК., 1969, №120

М.Ткачоў, Л.Калядзінскі, Раскопкі на Верхнім замку ў Вицебску, Помнікі ГКБ Мн.1984 №1.

Фасмер, Р.Р., Список монетных находок, зарегистрированаых секцей нумизматики и глимики АИМК в 1920-1925г. Сообщения вып. 1, Гос. Ак. Инст. Мат. Культ. Л. 1926,

Г.В. Штыхов, Города Полоцкой земли (IX—XIIIвв.) Мн. 1978

М.М.Яницкая, Вытокі шкляробства Беларусі. Мн. 1980



# Кароткі нарыс па гісторыі дзяржавы і права ў Беларусі



Язэп Юхо

## *Палітычны лад*

У старадаўнасьці для вызнчэньня дзяржавы было некалькі тэрмінаў. У летапісах і іншых пісьмовых крыніцах дзяржавы называюцца такімі тэрмінамі, як «зямля», «горад», княства», «валасьць». Напрыклад, у «Русской Правде» было запісана: «*А і своего города в чюжю землю свода нетуть*» (*арт. 35, па Троіцкаму спісу*). У дадзеным артыкуле тэрміны «горад» і «зямля» абазначаюць дзяржаву. У старажытнасьці для абазначэньня адной і той-жа дзяржавы ўжываліся розныя тэрміны, якія мелі аднолькавае значэньне, хоць і адлюстроўвалі некаторыя адценьні. Тэрміны «княжэньне», «княства», «валасьць» больш падкрэсьлівалі ўладныя паўнамоцтвы, а тэрміны «зямля», «горад»—тэрыторыю дзяржавы й яе дзяржаўную будову. У склад «зямлі», як правіла, увахodзіла некалькі больш дробных дзяржаваў, г.зн. «зямля» выступае як злучаная фэўдальная дзяржава. «Горад», як правіла, не ўключаў у свае валоданьні іншых дзяржаваў, а меў толькі прыгарады. Кожная старажытная дзяржава мела свой палітычны цэнтр, стольны або старэйшы горад. Па імені стольнага горада называлася й уся дзяржава, што служыць сьведчаньнем таго значэньня, якое надавалася сталіцы ў палітычным, культурным і гаспадарчым жыцьці ўсёй дзяржавы. Па імені галоўнага горада называліся і ўсе жыхары дадзенай дзяржавы: палачане, driучане, лукамляне, меняне, берасьцейцы і да т.п.

У дзяржаўным ладзе да IX ст. пераважалі дробныя дзяржавы-княствы, якія былі адасоблены нават ад сваіх бліжэйшых суседзяў.

Зьмены ў вытворчых адносінах, што адбываліся ў IX—X стст. выклікалі карэнныя зьмяненьні ў дзяржаўным ладзе і палітычным. Гэтаму садзейнічала таксама новая фэўдальная ідэялёгія, разьвіваемая клясам фэўдалаў, што складаўся, і падтрымліваемая праваслаўным духавенствам, выхаваным на ідэях і традыцыях Бізантыйскага дэспатызму і цэнтралізму. Усё гэта прывяло да таго, што дробныя дзяржавы-княствы аб'ядноўваліся пад пратэктаратам больш моцных дзяржаваў або нават зьліваліся зь імі. Акрамя таго і больш моцныя дзяржавы ўступалі паміж сабой у саюзы й аб'яднаньні, утвараючы своеасаблівыя фэўдальныя фэдэрацыі канфэдэрацыі. Узаемасувязі ў такіх саюзах часта трымаліся на родасных адносінах кіраўнікоў дзяржаваў (князёў), і пасьля сьмерці аднаго зь іх скасоўваліся, у сувязі з чым аб'яднаная дзяржава-саюз распадалася на складаныя часткі-дробныя дзяржавы, княствы.

Саюзы й аб'яднаньні дзяржаваў-княстваў утвараліся як на аснове добраахвотных пагадненьняў, так і па прымусу больш моцных дзяржаваў, але характар гэтых саюзных дзяржаваў ад гэтага не зьмяняўся.

На тэрыторыі Беларусі можна выдзеліць некалькі буйных дзяржаваў-княстваў, якія існавалі ў IX—XIII стст. сярод якіх найбольшае значэньне мелі княствы Полацкае, Менскае, Тураўскае, Пінскае, Берасьцейскае, Горадзенскае, Навагародзкае. У сваю чаргу гэтыя княствы часамі ўтваралі саюзы

паміж сабой альбо зь іншымі княствамі, а часам і варагавалі паміж сабой. У XII ст. першачарговае значэньне сярод княстваў на тэрыторыі Беларусі належала Полацкаму княству. Яно займала тэрыторыю каля 40-50 тыс.кв.км (больш чым сучасная Бэльгія або Нідэрлянды).

Дзяржаўны лад Полацкага княства ў IX—XII стст. будаваўся на аснове ўключэньня ў яго склад некаторых дробных княстваў і саюзу зь іншымі. Так, у залежнасьці ад Полацкага княства знаходзіліся княствы Лукомльскае, Друцкае, Браслаўскае, Віцебскае, а таксама латышскія княствы на Дзьвіне Герцыка і Кукейнас. Саюзныя адносіны былі зь Менскам, Берасьцейскім й іншымі княствамі, саюзьніцкія адносіны Полацкай дзяржавы складаліся і зь іншымі старажытнарускімі дзяржавамі, у прыватнасьці зь Кіеўскай і Смаленскай. Найбольш раньні ўспамін аб Полацку зьмяшчаецца ў Ісландзкай сазе аб Цідрэку, у якой расказваецца аб асадзе й узяцьці Полацку гунамі ў час кіраваньня ў іх Атылы, г.зн. у першай палове У ст.[1] Зразумела, гэтае паведамленьне належыць крытычнай ацэнцы, але можна меркаваць, што ў ім знайшлі месца водгаласы нейкіх ваенных дзеяньняў паміж палачанамі і гунамі, асабліва калі мець на ўвазе паведамленьні Іаакімаўскага летапісу аб князях і славянах у пачатку нашай эры. Летапісныя паведамленьні аб Полацкай дзяржаве не дазваляюць узнавіць карціну яе сапраўднай гісторыі, а толькі сьведчаць аб тым, што гэтая дзяржава адыгрывала значную ролю ў нашай гісторыі. Так паведамляецца аб удзеле палачан у паходзе 907 году на Канстантынопаль і аб атрыманьні імі з Канстантынопаля кантрыбуцыяў. Расказваецца легенда аб сватаўстве і жаніцьбе Ноўгарадзка-Кіеўскага князя Уладзіміра на полацкай князёўне Рагнедзе ў 980 годзе. Летапісы паведамляюць аб неаднаразовых ваенных дзеяньнях палачан з суседнімі дзяржавамі, аб паходах Кіеўскіх князёў на палачан. Пад 1021 г. зьмяшчаецца паведамленьне аб далучэньні да Полацкай дзяржавы гарадоў Віцебска й Усьвята. Урыўкавыя паведамленьні зьмяшчаюцца і ў адносінах полацкіх падзеяў другой паловы XI ст., калі полацкім князем быў Усеслаў Брачыслававіч. Успамінаюцца паходы кіеўлян на Полацак і іншыя гарады ў 1066, 1069 і 1071 гг. Паведамляецца аб паходзе полацкага князя Барыса Ўсеславіча ў 1102 г. на ятвягаў і аб заснаваньні горада Барысава, аб удзеле палачан у паходзе на полаўцаў у 1103 г. Зьмяшчаюцца зьвесткі аб вайне зь земголамі і аб паражэньні палачан у 1106 г.

У 1106 г, кіеўляне ўчынілі паход на полацкае княства і ўзялі гарады Воршу і Менск, а ў 1109 г. ўзялі ў палон Менскага князя Глеба, які і памёр у палоне. З падобных паведамленьняў, нават калі прызнаць іх верагоднымі, няма магчымасьці скласьці палітычную гісторыю Полацкай дзяржавы, бо яны датычацца толькі сфэры адносін Полацка зь Кіевам і па-за полем зроку пакідаюць асноўныя моманты жыцьця народу, а таксама адносіны зь іншымі дзяржавамі і княствамі, якія ўваходзілі ў сфэру Полацкага ўплыву.

Яшчэ больш бедныя зьвесткі аб княствах Тураўскім, Пінскім, Берасьцейскім, Гарадзенскім, Новагародзкім, Лідзкім, Крэўскім і іншых.

Разам з тым пры ўсёй мізэрнасьці крыніц можна аднавіць асноўную сыстэму палітычнага ладу старажытных дзяржаваў. Сыстэма органаў улады і кіраваньня ў дзяржавах-княствах IX—XII стст. на тэрыторыі Беларусі была аднатыпнай зь іншымі старажытнарускімі дзяржавамі. Вышэйшымі

органамі былі: князь, савет (рада), веча (сейм). Функцыі органаў цэнтральнага кіраваньня выконвалі некаторыя службовыя асобы, такія як пасаднік, тысяцкі, ключнік, падвойскі, цівун, а таксама вышэйшыя прадстаўнікі праваслаўнай царквы — япіскап і ігумены.

Князь быў галоўнай асобай ва ўсёй сыстэме кіраваньня. Ён быў кіраўніком дзяржавы і ўсіх выканаўчых органаў, яму прадастаўлялася права вырашаць усе бягучыя пытаньні дзяржаўнага кіраваньня. Для вырашэньня больш важных пытаньняў ён раіўся з сваімі бліэжйшымі саветнікамі «думчымі», «лепшымі», «добрымі», «мужамі» або склікаў веча для больш шырокага абмеркаваньня. Асноўным абавязкам князя была арганізацыя абароны дзяржавы ад зьнешняга нападу і падтрыманьне парадку ўнутры дзяржавы. У асабістым распараджэньні князя была невялікая дружына, якая часта наймалася зь іншаземцаў. Яна несла ахову княжацкага дому і выконвала даручэньні князя па падтрыманьню парадку ўнутры дзяржавы ў мірны час. У час ваенных паходаў дружына складала ядро найбольш баяздольнай часткі войска.

Уладарныя паўнамоцтвы князя абумоўліваліся як яго асабістымі якасьцямі й аўтарытэтам сярод насельніцтва, так і падтрымкай вярхоў пануючага клясу, у руках якіх знаходзіўся ўвесь апарат дзяржаўнага кіраўніцтва.

Уступленьне князя на прэстол магло адбывацца рознымі спосабамі. Найбольш частым было ўступленьне на прэстол аднаго з насьледнікаў князя, які раней кіраваў. Але лічылася зусім нармальнымі запрашэньне іншага князя.

Даволі частымі былі выпадкі захопу ўлады сілаю, калі князь, абапіраючыся на падтрымку часткі насельніцтва або сілы іншага княства сядаў на княжаньне. Аднак, і ў такім выпадку дзяржава не страчвала свайго сувэрэнітэту ва ўнутраных і зьнешніх адносінах. Наглядным прыкладам розных спосабаў уступленьня на княжацкі прэстол можа служыць гісторыя жыцьця полацкага князя Ўсеслава Брачыславіча. Ён стаў полацкім князем пасьля смерці свайго бацькі Брачыслава ў 1044 г. У 1067 г. на Полацкую дзяржаву быў зроблены паход аб'яднаных сілаў Кіеўскага, Чарнігаўскага і Пераяслаўскага княстваў. Не дабіўшыся посьпеху ў ваенных дзеяньнях, князі Ізяслаў Кіеўскі, Сьвятаслаў Чарнігаўскі й Усевалад Пераяслаўскі шляхам падману і клятвапарушэньня захапілі ў палон Усяслава Полацкага і пасадзілі яго ў турму ў Кіеве. У верасьні 1068 г. у Кіеве ўспыхнула народнае паўстаньне, у выніку якога Ізяслаў быў выгнаны зь Кіева, а на яго месца быў абраны вызвалены са зьняволеньня Ўсяслаў Полацкі. Затым Усяслаў пакінуў Кіеў і вярнуўся ў Полацак, адкуль выгнаў князя Сьвятаполка.

Уступленьне князя на прэстол суправаджалася строга пэўным рытуалам, у час якога новы князь прыносіў прысягу ахоўваць тэрыторыю дзяржавы й інтарэсы грамадзян, абяцаў дзейнічаць у адпаведнасьці з мясцовымі дзяржаўна-прававымі звычаямі. Умовы ўступленьня князя на прэстол афармляліся ў дагаворы-радзе, які заключаўся князем зь вярхамі пануючага клясу. Некаторыя старажытныя нормы (артыкулы) такога дагавору знайшлі адлюстраваньне й у наступных заканадаўчых актах. Напрыклад, у грамаце, выдадзенай палачанам у 1511 г. ёсьць умовы, якія былі выпрацаваны ў больш старажытны пэрыяд, калі Полацкая дзяржава была яшчэ самастойнай і палачане заключалі дагаворы са сваімі князямі. Згодна з гэтымі ўмовамі князь абяцаў не

ўмешвацца ў царкоўныя справы і царкоўную маёмасьць, не адымаць маёмасьці ў палачан, старых судоў не перасуджваць, не перашкаджаць выезду свабодных людзей за мяжу княства і шэраг іншых. [2]

Паўнамоцтвы князя ажыцьцяўляліся ў асноўным у сфэры выканаўча-распараджальнай дзейнасьці. Правам выданьня новых законаў князь не валодаў. Такое права прызнавалася толькі за калегіяльнымі органамі — думай (радай) і вечам. Судовая дзейнасьць князя таксама абмяжоўвалася вярхамі кіруючага клясу, ён ня мог судзіць аднаасобна і павінен быў учыняць адпраўляць правасудзьдзе сумесна з сябрамі рады й іншымі асобамі.

Княжацкая дума (рада) не мела пастаяннага складу. Князь мог запрашаць да сябе на нарады ўсіх, каго ён хацеў, але разам з тым ён ня мог ігнараваць думкі найбольш уплывовых людзей у дзяржаве й асабліва службовых асобаў цэнтральнага і дварцовага кіраваньня. Да бліжэйшых саветнікаў князя адносіліся япіскап, ігумены, пасаднік, тысяцкі, падвойскі, ключнік, найбольш паважаныя сябры княжацкай дружыны, а таксама «цівун градзкі», як правіла, ён абмяркоўваў са сваімі саветнікамі. Аб залежнасьці Полацкага князя ад сваіх саветнікаў вельмі ярка расказвае Ісландзкая сага аб Эймундзе. У ёй гаворыцца, што калі скандынавец Эймунд прыйшоў з дружынай наймацца на службу да Полацкага князя Прачыслава, то князь адказаў яму: «Дайце мне час параіцца з маімі мужамі, таму што яны даюць мне грошы, а я толькі іх трачу».[3] На пасяджэньнях рады, што адбываліся штодзённа, прысутнічалі ня ўсе асобы, якія мелі права прымаць удзел у дарадах з князем, а толькі тыя зь іх, якія ў дадзены час знаходзіліся каля яго. Пры вырашэньні-ж больш важных пытаньняў рада зьбіралася ў поўным складзе. Акрамя бягучай выканаўча-распараджальнай дзейнасьці ў радзе вырашаліся і найбольш важныя судовыя справы, якія датычылі інтарэсаў прадстаўнікоў кіруючых вярхоў і вышэйшых службовых асобаў дзяржаўнага апарата. Пры адсутнасьці князя ўсё кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі сканцэнтроўвалася ў руках сябраў рады. У Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай расказваецца, што ў XIII ст. у Полацку кіравалі 30 мужоў, выбраных зь ліку палачан, якія вырашалі ўсе справы і рабілі правасудзьдзе.[4] На радзе рыхтваліся і рашэньні, якія падлягалі абмеркаваньню на вечы (сойме). Рыхтуючы скліканьні веча (сойма) сябры рады мабілізоўвалі залежных ад сябе людзей і патрабавалі ад іх падтрымкі сваім рашэньням, праводзілі пэўную агітацыйную кампанію сярод насельніцтва. Такім чынам, і на вечах (соймах) сябрам рады належала кіруючая роля. Веча (сойм) найбольш старажытны орган дзяржаўнай улады. Яно ўзьнікла адначасова зь дзяржавай і існавала ва ўсіх старажытных славянскіх дзяржавах у Ноўгарадцаў, Смалян, Кіеўлян, Палачан і іных. Вядомы расейскі гісторык права В.Сергяевіч лічыў, што «веча... існуе з незабыўных часоў і было заўсёды»[5]. Словам «веча», «снем», «сойм» у даўнія часы абазначаўся ўсякі сход народу. У актах XIII —ХУ стст. у Беларусі атрымліваюць распаўсюджаваньне і такія назвы сходаў як «снем», «сойм», «капа», «купа» ад слоў: «капіць», «скапленьне», «скоп», «скупчыня». Веча зьбіралася ў пэўным месцы, на гандлёвай плошчы, каля царквы, але яно лічылася зусім законным, калі зьбіраліся па нейкіх прычынах і ў незвычайных месцах. Паўнапраўнымі ўдзельнікамі веча прызнаваліся толькі свабодныя людзі і не падначаленыя сямейнай уладзе. Напрыклад,

жыхары Друцка, запрашаючы да сябе князя Рогвалада Барысавіча, гаварылі: *«Прыязджай, князь, не марудзь, рады мы табе, калі давядзецца, станем біцца за цябе і зь дзецьмі.*[6] Адсюль відаць, што бацькі рашалі і за паўналетніх дзяцей, якія былі здольныя змагацца за князя. Якой-небудзь пэўнай колькасьці або, што зьявіліся на веча для прызнаньня яго паўнапраўным не было, але адсутнасьць прадстаўнікоў пэўнай часткі насельніцтва магла выклікаць неабавязковасьць для іх дадзенага рашэньня. Таму органы дзяржаўнага кіраваньня былі зацікаўлены, каб на сойме (вечы) былі прадстаўнікі розных груп насельніцтва. Так у грамаце, выдадзенай палачанам у 1486 г., гаварылася: «*И далей прыказуем, абы бояре и мещане и дворане горадские и все поспольстово в згодзе межи собою были, а дела бы наши господарские вси згодою посполу справляли по давному, а сымались бы вси посполу на том месте, где перед тым сымывались здавна. А без бояр мещаном и дворaном городским и черни соимов не надобе чинить*»[7]. Удзел у палітычным жыцьці дзяржавы ўсіх паўнапраўных людзей быў неабходны для нармальнай дзейнасьці дзяржавы. Пры невялікім чыноўніцкім апараце органы ўлады вымушаны былі пастаянна шукаць падтрымкі ў насельніцтва, а таму ўсе найважнейшыя пытаньні дзяржаўнай палітыкі маглі быць ажыцьцяўлены толькі са згоды большасьці паўнапраўных грамадзян. Кіруючая роля на вечавых сходах належала кіруючым вярхам. З узмацьненьнем клясавага расслаеньня паступова падае значэньне простых людзей і ўзрастае роля эксплуататарскіх вярхоў, а самі вечы, з органаў, якія выказваюць волю большасьці народу, ператварыліся ў органы толькі пануючага клясу.

Пытаньні на вечавых сходах вырашаліся пераважнай большасьцю. Пры разыходжаньні думак прымаліся рашэньне, што выказвала волю найбольш моцнай часткі прысутных, якія былі ў стане прымусіць астатніх згадзіцца зь іх думкай і затым дабіцца выкананьня рашэньняў. Кола пытаньняў, якія падлягалі вечаваму вырашэньню, не было строга вырашана. Найбольш важнымі справамі былі: раскладка павіннасьцей і падаткі, выбраньне і выгнаньне князя, прызначэньне і зьняцьцё вышэйшых службовых асоб, пытаньні вайны і міру, арганізацыя апалчэньня й абароны, найбольш важныя судовыя справы, міжнародныя адносіны. Акрамя таго, маглі абмяркоўвацца й іншыя менш важныя пытаньні. Функцыі органаў кіраваньня выконвалі асобныя службовыя асобы: пасаднік, тысяцкі, падвойскі, ключнік, цівун.

(Працяг у наступным нумары)

## Бібліяграфія

[1] Сапунов А; Сказания исландских или скандинавских саг о Полоцке, князьях полоцких и р.Западной Двине. Полоцко-Витебская старина, Вып. III, Витебск, 1916, с.29-32.

[2] Акты Заходняй Расии. СПБ, 1848, т.2. №70.

[3].Сапунов А. Сказания исландских или скандинавских саг о Полоцке, князьях полоцких и р.Западной Двине. Полоцко-Витебская сторина, Вып. III, Витебск, 1916. с. 2, 10

4.ПСРЛ' т. 32, М. 1975, с.20.

5.Сергеевич, В. Русские юридические древности. т.2. вып.1, Вече и князь , СПБ, 1893, с. 33.

6.Соловьёв С. М. История России с древнейших времен. М. 1959, кн 1, т.2, с. 517.

7. Полоцкие грамоты XIII—начала XYI вв. ч.2. М.1978.



# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў




Паўла Урбан

За часоў вялікага князя Вітаўта жыў магнат Рамбольд Валімунтавіч, імя якога ў лацінскай транскрыпцыі пісалася яшчэ як Рымбольд або Румпольд. Пасьля перамогі 1410 г. у Грунвальдзкай бітве пан Рамбольд стаўся старастам Жамойдзі, але ад 1412 г. згадваецца на пасадзе найвышэйшага маршалка земскага ВКЛ. Гэтую пасаду ён займаў нават у 1432 г. Але вось чытаем прывілейную грамату кн. Заходняй Памараніі Барніма, які ў грамаце тытулаваўся «князем славянаў». Князь Барнім заснаваў г. Прэнцлаў і вызваліў яго на тры гады ад падаткаў, і даваў гэтаму гораду Магдэбургскае права. Тая грамата князя Барніма была датаваная канцом 1234 г., і ў ёй ў якасьці сьведкаў побач з Далімерам, Прыснаборам, Сульславам і Яраславам называўся яшчэ чашнік князя Рымбольд. [127]

Дарэчы, якраз Рамбольдам зваўся канцлер князёў Польшчы і Сілезіі Баляслава й ягонага брата Генрыка. Іхняя пацьвярджальная грамата для Аўгустынскага манастыра ў Вроцлаве была датаваная 1247 г. Апрача канцлера Рамбольда, у гэтай грамаце князёў Баляслава і Генрыка ў якасьці сьведкаў называліся яшчэ Рацібор, Мілаш, Дабэзій, Прадвой і Сабяслаў, сын Забэзія.[128]

Рымбольд і Рамбвольд. Ці гэта славянскія імёны? Але-ж і славяне маглі называцца гэткім чынам: Даніла Дажбогавіч, Рэкнольт Івашка Данаславіч. Таксама й адзін з паноў Нарбутаў меў імя: Дабрагаст Нарбутавіч.[129]

У ліцьвіноў было таксама імя Рымавід, і яно часта сустракалася ў ХУст. Мы ўжо прыгадвалі магната Яна Юравіча Забярэзінскага. Ягоны дзед зваўся якраз Рымавідам. Пан Ян Рымавідавіч згадваўся ў актах Гарадзельскай вуніі 1413 г. Яшчэ іншы пан Алехна Рымавідавіч быў названы ў адной з дароўных граматаў 1456 г. маршалкам дворным вялікага князя Казіміра Ягайлавіча.

Праўдападобна, што братам магната Рамбольда быў пан Судзівой Валімунтавіч, які выступаў у прыгадваным акце 1434 г. в.кн.Жыгімонта Кейстутавіча. Гэтым актам, як ведама, в.кн. Жыгімонт пацьвярджаў умовы Гарадзельскай вуніі. Пан Судзівой Валімунтавіч на пачатку 40 гадоў быў канцлерам ВКЛ, затым знаходзіўся на пасадзе вялікакняжага намесьніка ў Коўне. Ад 1451 г. ён займаў пасаду каштэляна Віленскага. У лацінскай транскрыпцыі імя Судзівой пісалася: Sudziwoy, Sudiwogius і Sandiwogius. Але гэткім чынам пісалася ў лацінскай транскрыпцыі таксама імя паляка Судзівоя з Астрарогу, які даўжэйшы час быў Познаньскім ваяводам і браў удзел у бітве пад Грунвальдам.[130]

Сын гэтага Судзівоя зваўся Станіславам. Пісаўся ён як Станіслаў Судзівоявіч і дзесьці ад 1469 г. займаў пасады вялікакняжага намесьніка ў Горадні, а таксама найвышэйшага маршалка земскага Вялікага княства Літоўскага. Нейкі час быў ваяводам Троцкім.

Зь імем Судзівой пераклікаецца імя Судзімут. Напрыклад, магнат Алехна Судзімунтавіч у 40-х гадах быў падчашным, затым ад 1469 г. згадваўся на пасадзе вялікакняжага намесьніка ў Полацку, а ў 1478 г. стаўся Віленскім ваяводам і канцлерам

Працяг. Пачатак у № 1(11)—7(17), 1992

ВКЛ. Гэтыя пасады ён займаў да 1491 г.

Паны Няміры або Няміровічы паходзілі, як выглядае, ад таго Няміры, імя якога сустракалася ў прыгадванай паручальнай грамаце 1401 г. а таксама ў актах Гарадзельскай вуніі 1413 гг. Гэта быў Іван Няміра, які жыў яшчэ ў 1452 г. У дароўных ды іншых дзяржаўных актах ХУ ст. называлася шмат Няміраў. Гэтак пан Андрэй Няміравіч згадваўся ў Жыгімонтавым акце 1434 г., і ён быў маршалкам дворным. Пан Мікола Іванавіч Няміра ў 1440 г. браў актыўны ўдзел у абраньні вялікім князем Казіміра Ягайлавіча. Пазьней, прынамся ў 1469 г., Мікола Няміра згадваўся на пасадзе вялікакняжага намесьніка ў Віцебску: Ягоны брат Якуб Іванавіч Няміра ў 70-80 г. займаў пасаду дзяржаўнага пісара, быў таксама Берасьцейскім намесьнікам.

Няведамы аўтар «Хронікі Быхаўца» паходжаньне імя Няміры тлумачыў тым, што, бяручы ўдзел у паходзе в.кн. Вітаўта ў рэгіён ракі Ўгры, пэўны пан Андрэй быў незадаволены афармленьнем мірнага пагадненьня з Маскоўскім вялікім князем Васілём І. Гэта магло тычыцца вялікага паходу, які адбыўся ў 1408 г., мабыць, пан Андрэй *«рекл» вялікаму князю Вітольту: « Не ест правы мир, где кров пролития межы господоры не было»*. Аўтар гэтай хронікі далей яшчэ пісаў: *«I так для тое прычыны того пана Андрэя прозвали Немиром»*.

Адразу сцьвердзім, што паны на імя Нямір шмат раней сустракаліся ў Польшчы. Возьмем для прыкладу прывілейную грамату польскіх князёў Баляслава і Пшэмысла, што была датаваная 1253 г. і моцай якой давалася «нямецкае» права г.Сьрэм. Сярод сьведкаў, якія прысутнічалі пры афармленьні гэтай граматы, быў названы Нямір, сын Дзяржыкрая.[131] Можна яшчэ дадаць, што даўным-даўно, у другой палавіне IX ст., Нямірай звалася маці аднаго з харвацкіх жупанаў Госьціка. Гэтыя свае імёны яны пакінулі для патомкаў у надпісах у адной з цэркваў Харватыі[132].

У гістарычнай літаратуры панам Нямірам прыпісвалася іхняе жамойцка-летувіскае паходжаньне. Аднолькава да гэтага жамойцка-летувіскага паходжаньня залічаліся, напрыклад, паны Война і Давойна. Мабыць, паны на імя Война і Давойна выступалі ў паручальнай грамаце 1401 г. і ў акце 1434 г. в.кн. Жыгімонта. Адным словам, пісалі гісторыкі, усе баяры і паны з тых дакумэнтаў належалі да «літоўскіх фэўдалаў». Аднак-жа, як адзначалася, і ў славянаў былі пашыраныя імёны Война або Войнамір. Там, дзе было імя Война, магло быць таксама імя Давойна. Дарэчы, у паручальнай грамаце 1401 г. і ў актах Гарадзельскай вуніі 1413 г. было названыя яшчэ гэткія паны і баяры: Войдзіч, Войнад Русіловіч, Вайдзіла Кушаловіч, Войшнар Віркалевіч і Войшын Данейкавіч. Дарэчы, імя Вайдзіла сустракалася часта. Вайдзілам зваўся таксама брат магната Андрэя Саковіча.

Але вернемся да паноў Войнаў і Давойнаў. Пан Война, які згадваўся ў Жыгімонтавым акце 1434 г., займаў у тым часе пасаду дзяржаўцы ў Кернаве. Акт Мельніцкай вуніі 1501 г. былі падпісалі ключар Берасьцейскі Война й яшчэ нейкі пан Война Філіневіч. Аднак паны Войны ўзьняліся палітычна ў другой палавіне ХУІ ст. За часоў канцлерства Астапа Валовіча і Льва Сапегі. Гаўрыла Война быў дзяржаўным пісарам, Лаўрэн Война — падскарнбым земскім, а Грычун Война займаў пасаду каштэляна Мсьціслаўскага.

Баярын Андрэй Давойнавіч, які згадваўся ў Жыгімонтавым акце 1434 г. і ягоны брат Алехна Давойнавіч былі, праўдападобна, сынамі Давойны Вышгердавіча з

паручальнай граматы 1401 г. У вялікім пераліку іншых магнатаў пан Андрэй Давойнавіч быў названы ў адной з дароўных граматаў в.кн. Казіміра Ягайлавіча, датаванай 23 красавіком 1452 г. Якую ён займаў у тым часе пасаду, пра гэта ў грамаце не гаварылася. Пан Ян Давойнавіч, які быў дыпляматам і ў якасьці пасла ў 80-х гадох наведваўся ў Маскву і Крым, ад 1492 да 1500 г. займаў пасаду намесьніка Драгічанскага. Да прыхільнікаў Мельніцкай вуніі 1501 г. належалі і падпісалі акт гэтай вуніі дзяржаўца Даўгастайскі Юры Давойнавіч і яшчэ пан Андрэй Давойнавіч. Нарэшце, Станіслаў Станіславіч Давойна ад 1542 да 1563 г. быў Полацкім ваяводам і намінальна заставаўся ім да 1573 г.

У ліцьвіноў былі пашыраныя яшчэ імёны накшталт, Будвід і Будзьвіл, Буйвід, Буйвіл, Волчка (Воўчка), Завіша, Неруш, Някраш, Прокша, Радуш, Рымша або яшчэ Бартош і Данейка. Але гэткія ці падобныя ім імёны былі таксама ўласьцівыя для славянаў: тыя-ж Бартош і Будзівой, Богша-Богуш (Багуслаў), Борша (Баржывой), Мілаш (Міласлаў), Завіша (Завіслаў), Радоша (Радаслаў), Яроша (Яраслаў або Ярамір). Сярод імёнаў баяраў Вялікага Ноўгараду згадваліся таксама Паўша, Прокша, Ратша (Рацібор) і Войборза. Другі кампанент гэтага апошняга імя—Войборзы—нагадвае імя Борза, якім зваўся адзін з братоў вялікага князя Тройдзеня.

Можна спаслацца яшчэ на прыклад, якімі імёнамі зваліся сяляне Случчыны. Тагачасны Слуцкі князь Сямён Міхайлавіч і ягоная маці, жонка пакаранага ў 1481 г. князя Міхала Аляксандравіча (Алелькі), былі абрэзалі маёмасныя ўладаньні двух каталіцкіх касьцёлаў у Слуцку. У гэтую справу на просьбу Слуцкага пробашча Мацея быў умяшаўся вялікі князь Аляксандр, які і выдаў адпаведную грамату, што датаваная 12 травенем 1494 г. Дык у пераліку сялянскіх сем'яў, якія павінны былі належаць да тых касьцёлаў, называліся якраз гэткія імёны сялянаў: Волаш, Маліш, Нераш і Цімош, а таксама Ярошка.

Бясспрэчна, у ліцьвіноў былі таксама імёны балцкага паходжаньня. Гэта нармальная рэч, бо ліцьвіны сутыкаліся з балцкімі плямёнамі, жылі побач або ў перамешку зь імі, і маглі, такім чынам, запазычваць імёны балтаў. Аднолькава і прадстаўнікі балцкіх плямёнаў маглі запазычваць імёны ліцьвіноў.

Вось-жа ўсе гэтыя факты, пра якія была гаворка, выпадае асэнсаваць, каб разам з гэтым зрабіць адпаведную выснову. Бо рэчаіснасьць зафіксаваная гэтымі фактамі, дае, па-першае, падставы сьцвярджаць, што ад даўнейшых часоў ліцьвіны карысталіся славянскай мовай. Нездарма-ж, як адзначалася, дзеля справы хрышчэньня ліцьвіноў вялікі князь Гедымін запрашаў з Захаду ў ВКЛ манахаў-прапаведнікаў, якія маглі-б валодаць «польскай» і «русінскай» мовамі. Пра гэта аднолькава сьведчаць названыя намі прыклады ў жыцьці ліцьвінамі славянскіх тэрмінаў рознага значэньня ў сваіх дароўных граматах, што пісаліся на лацінскай мове. Маючы гэта на ўвазе, можна таксама знайсьці тлумачэньне для таго факту, чаму пры заснаваньні ў 1417 г. Медніцкай каталіцкай япархіі сярод ліцьвіноў абіраліся людзі, якія, каб узначаліць гэтую Жамойцкую япархію, павінны былі ведаць і свабодна карыстацца жамойцкай мовай.

Другое, мы маглі таксама сцьвердзіць, што для імёнаў князя ВКЛ і ўласных імёнаў звычайных ліцьвіноў аднолькава знаходзіліся славянскія аднайменныя адпаведнікі. Гэтыя два важныя фактары—моўны

фактар і фактар супадзеньня ўласных імёнаў—змушаюць паставіць пытаньне наконт этнічнага паходжаньня ліцьвіноў і адкуль узялося іхняе этнічнае найменьне.

Бяспрэчна, добра вядама, што ў «Аповесьці мінулых гадоў» ліцьвіны або літва зь гледзішча мовы вылучаліся з асяродзьдзя ўсходнеславянскіх плямёнаў. Але-ж аўтар гэтага летапісу ды ягоныя бліжэйшыя пасьлядоўнікі ведамую «русь» таксама вылучалі з асяродзьдзя славянаў і прыпісвалі гэтай «русі» гэтак званае скандынаўска-нарманскае паходжаньне. Хоць, папраўдзе, цяжка паверыць, каб аўтары тых кіеўскіх летапісаў, якія пісаліся ў другой палавіне XI—першай палавіне XII ст. маглі штосьці ведаць пра гэтак званае запрашэньне князёў-варагаў Рурыка, Сінеўса і Треувара ды што ад таго часу (862 г) «*и оть техъ Варягъ прозвася Руская зямля*».

Мы ня будзем унікаць у сутнасьць гэтай «нарманскай тэорыі паходжаньня Русі». Аднак цікава зьвярнуць увагу на ўласныя імёны, якія ад даўнейшага часу былі характэрныя для жыхароў Ноўгарадзкай зямлі. Сюды-ж, паводля паданьня, занатаванага ў «Аповесьці мінулых гадоў» былі запрошаныя «княжыць» тыя «варагі-русь», якія да таго-ж прыйшлі з сваімі «родамі». Вось гэтыя імёны: князь Барывой, князь Гастамысл, Астрамір, Багаміл, Багуслаў, Богша, Боўлша, Войборза, Войслаў, Гарыслаў, Дамажыр, Даняслаў, Дзяржыкрай, Дарагаміл, Жыраслаў, Завід, Збыслаў, Міланег, Міранег, Міраслаў, Неравін, Няжата, Няжыла, Нязьдзіла, Палюд, Прокша, Рагуіл, Ратша, Рацібор, Рацімір, Станамір, Судзіла, Сядзіла, Тварымір, Твардаслаў, Твардзіла Уладыслаў. [133]

Здаецца, ніхто на будзе аспрэчваць, што ў сваёй бальшыні названыя тут імёны першых князёў, а таксама баяраў Ноўгарадзкай зямлі адпавядалі ў першую чаргу імёнам заходніх славянаў. Там-жа, на паўднёвым узьбярэжжы балтыйскага мора, уключаючы сюды таксама востраў Руген, жыла вось гэтая славянская Русь — рутэны, якія зваліся яшчэ руянамі. Была там і краіна «Рутэнія» [134]. Манах Герборд свой «Дыялог-хроніку» напісаў дзесьці каля 1159 г. Ён быў сучасьнікам і спадарожнікам Бамбэрскага япіскапа Антона, які валодаў славянскай мовай і браў актыўны ўдзел у хрысьціянізацыі люцічаў і руянаў-русаў. Аўтар «Дыялогу» Герборд пісаў таксама пра Кіеўскую Русь, і ведаў, што гэта іншая Русь і яна знаходзілася на ўсход ад Прусіі, Польшчы і Венгрыі.

Як можна было заўважыць, некаторыя зь пералічаных уласных імёнаў ноўгарадзкіх баяраў асабліва з кампанентамі -**пл**, або -**лка**, супадалі з падобнымі імёнамі ліцьвінаў.

(Працяг у наступным нумары)

## Бібліяграфія


127 Urkunden und erzahlende Quellen zur deutschen Ostsiedliung im Mittelalter, Bd. XXVIa, Nr. 87, s. 328-333.

128 Ibidem, Bd. XXVI b. Nr. 273, s.160-163.

129 Codex Ecclesiae Vilnensis, Nr. 273, pp.319-320.

130 Jana Dlugosza Banderia Prutenorum. Krakow, 1851, p. 32.

131 Urkunden und erzahlende Quellen zur deutschen Ostsiedliung im Mittelalter, Bd. XXVIb, Mr. 63, s. 250-251.

132 Welt der slawen, Geschichte, Gesesllschft, Kultur. Heraugegeben von Joachim Herrmann. Munchen, 1986, s. 99.

133 Codex Ecclesiae Vilnensis, Nr. 413, pp. 478-480.

134 Новгородская первая летопись по синодальному списку. Verlaf Otto Sagner. Munchen, 1971

135. Herbordi Dialogus de vita Ottnid epioscopi Babenbergensis. In: Scriptores rerum Germanicarum. Nachdruck ex MFH. Hannoverae, 1937 pp. 142-145.

# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ

## Гісторыя адной паніхіды

Язэп Сажыч

Мушу прызнацца, што я веру ў Божую наканавасьць, бо заўсёды лёс кіраваў на добрую дарогу. Меў я больш шчасьця, чым долі. Калісьці ў маладосьці ня верыў я, што дажыву да такога веку пры добрым здароўі і памяці, бо было на маім вяку нямала выпадкаў, калі жыцьцё вісела на валаску.

Ужо пасьля капітуляцыі Нямеччыны, у 1948 годзе прыпадкова даведаўся, што ў Швэнінген (француская зона Нямеччыны) у польскім лягеры жывуць Плескачы з Навградчыны. Я падумаў, што варта іх адведаць, бо можа гэта ёсьць магістар права Васіль Пляскач з Наваградка. Пасьля навязаньня кантактаў, аказалася, што гэта быў той самы Васіль Пляскач, беларускі дзеяч, зь якім я ў Наваградку быў асабіста знаёмы. Зь ім можна было шчыра пагутарыць аба ўсім і парадзіцца. Так сталася, што ў Плескачоў нарадзіўся сын, і яны зь вялікаю радасьцю запрасілі мяне за хрэснага бацьку. Таму вельмі хутка я сабраўся ў дарогу.

Падрожжа з амэрыканскае зоны ў францускую было складаным і нялёгкім. Але я шчасьліва дабраўся ў Швэнінген і адшукаў Плескачоў. У іхняй хаце мяне чакала нечаканая сустрэча. Калі я зайшоў у пакой, то ўбачыў айца Мікаля Гарбацэвіча, былога настаяцеля наваградзкага сабору сьв. Барыса і Глеба, які прыехаў хрысьціць немаўлятку.

Пасьля абраду хрышчэньня мы заселі за стол і пачалі ўспамінаць пражытыя гады ў Наваградку. Айцец Гарбацэвіч прыпомніў мне школьныя гады, калі ён выкладаў у нашым клясе ў гімназіі рэлігію, а таксама часы, калі я прыслугоўваў яму ў царкве. Ён сказаў, што ў забабоны ня верыць, але прыходзіцца прызадумацца, бо людзі кажуць: той, па каму паніхіду служылі, будзе доўга жыць. «Я-ж на просьбу вашай маці служыў паніхіду па Вас у Наваградку». Сталася гэтае так.

Восеньню 1938 г. паклікалі мяне ў войска. Матурыстаў адсылалі ў афіцэрскія школы, і мяне накіравалі ў Брадніцу, што недалёка Таруня. Паколькі ў наступным годзе пачалася вайна, мне надалі рангу падпаручыка і паслалі на фронт, у Прусію.

Маючы 22 гады, 14 верасьня 1939 г. я павёў сваю роту ў атаку супраць нямецкага акружэньня, бо хацелі мы разарваць кальцо. Мы апынуліся пад крыжавым кулямётным абстрэлам, і дзьве нямецкія кулі падсеклі мяне. Я зь ёнкам паваліўся на зямлю. Нашая атака заламалася, мы не змаглі прарвацца. Але быў я шчасьліўцам, вакол мяне былі забітыя, сьмяротна параненыя, але я быў жывым, толькі кроў сачылася з ранаў. Чакаў я сьмерці, думаў, што немцы расстраляюць, але пашчасьціла. Раніцой нямецкія санітары пачалі падбіраць параненых, адвозіць іх ў нямецкія палявыя шпіталі. Падабралі і мяне. Трэба сказаць, што нямецкае ваеннае камандаваньне выконвала Жэнеўскі дагавор і даволі добра адносілася да польскіх ваеннапалонных, асабліва да польскіх афіцэраў.

Ніколі не забуду, калі нямецкі хірург у рангу маёра, аглядзеўшы мае раны, ласкава ўсьміхаючыся, пагладзіў маю галаву і сказаў: «Маеш, сынку, шчасьце, раны твае

не сьмяротныя, яны загояцца, і ты будзеш жыць». Раней я быў абыякавы да ўсяго, а пасьля ягоных цёплых словаў зразуемў, што такоє шчасьце і ад радасьці, што буду жыць, расплакаўся. Я адчуў, што сярод нашых учарашніх ворагаў ёсьць спачувальныя, зычлівыя людзі, і ў мяне зьявілася надзея, што палон ня будзе жахлівым.

Пасьля заканчэньня нямецка-польскай ваеннай эпапеі быў заключаны дагавор паміж Нямеччнай і СССР, і ў неўзабаве пачалася вымена палоннымі. Так як савецкая армія пры далучэньні Заходняй Беларусі захапіла вялікую частку польскае арміі, у якой служылі жыхары Сілезіі, Паможжа, Пазнаншчыны, савецкія ўлады, згодна дагавору, мусілі перадаць жаўнераў Нямеччыне. Немцы-ж адпускалі беларусаў і ўкраінцаў з палону. Маці мая, бывала, цэлымі днямі выстайвала каля брамкі, чакаючы на мяне і ўглядаючыся у жаўнераў у польскай уніформе, якія праходзілі нашай вуліцай. Яна пыталася, ці не сустракаў хто яе адзінага сына на фроньце. Аднаго дня падыйшоў да яе польскі ваяка з суседняй вёскі Сулятычы і сказаў: «Матанька, чакаеш ты павароту сынка, але дарма чакаеш. Жаль мне цябе, але на тое-ж вайна. Я на ўласныя вочы бачыў, як паў ён на зямлю і больш не падняўся».

Гэты сусед з Сулятычаў быў у маёй роце, і ён сапраўды бачыў, як я нерухома ляжаў сярод некалькіх забітых жаўнераў. Дастаўшы трагічную вестку, што я забіты, маці мая адразу ў нядзелю пайшла ў царкву й замовіла ў а.Гарбацэвіча паніхіду.

Праз нейкія два месяцы, у канцы лістапада 1939 году, падлячыўшыся ў шпіталі для ваеннапалонных ў Лодзі мне неяк ўдалося ўцячы з гэтага шпіталю. Пераапрануўшыся ў мундзір простага жаўнера разам з другімі палоннымі, з рознымі прыгодамі ў дарозе, нарэшце, пашчасьціла мне дабрацца да роднага дому.

І вось ў адзін з даждлівых восеньскіх днёў мая матулька пайшла па ваду. Яна ўжо нясла вядро вады ў хату, калі я накіраваўся з сухой сьцежкі пры калейцы ў кірунку свайго дому. Маці, пабачыўшы мяне, кінула вядро і пабегла ў хату з крыкам: «Ідзіце, ідзіце хутчэй на двор і глядзіце, што там робіцца». На крык маці выбеглі мае родныя, сама-ж матуля самлела. Выскачыла з хаты мая сястрыца, схапіла мяне за шыю ды так моцна, што ня мог я ад яе адарвацца, каб пабачыць, што сталася з матуляй. Радасьць усіх была бязмежнай. Хатнія, якія ўжо адслужылі па мне паніхіду, ня ведалі ад шчасьця, куды мяне пасадзіць, чым накарміць. Пару дзён я толькі спаў і адпачываў, адчуваючы сябе героем. Але мясцовыя ўлады так ня думалі. Яны прытрымліваліся іншых поглядаў і мелі сваю думку, што належыць рабіць польскаму афіцэру. Таму праз некаторы час мне прыйшлося хавацца ад іх, а пасьля нават уцякаць з хаты.

Другі раз мне моцна пашчасьціла ў час вайны, калі ў 1944-1945 гадах я працаваў у Нямеччыне на чыгуначных вузлавых станцыях. Кожны дзень і ноч аліянты бамбілі нас. Аднаго разу бомба трапіла ў наш барак, дзе мы спалі. Мне проста цудам удалося выпаўзьці з пылаючага будынку. Задыхаючыся ад дыму, я выбег навонкі барака. Здавалася, зямля гарэла пад нагамі. Усюль рваліся бомбы . Я дабег да вагона і схаваўся пад ім. Абмацаў сябе, і зь дзіўленьнем пабачыў, што я цэлы і нават непаранены.

Гэтыя два здарэньні і прымусілі мяне прызадумацца аб чалавечым лёсе і наканавасьці. Пазьней, некаторыя іншыя выпадкі вярталі да гэтых развагаў не адзін раз.




У 1927 г. нашая сям'я, пераехаўшы з Лагойшчыны, апынулася ў Менску. Так, ня скончыўшы сямігодкі (заставаўся адзін год), я паступіў у Менскую прафтэхнічную школу, у малярна-жывапісны цэх, дзе было трохгадзічнае навучаньне.

Вучоба ішла добра, мой настаўнік па альфрыйных працах Дрэйцэр вылучаў мяне ад іншых, убачыўшы, што я магу нешта скапіраваць. Адночы ён даў мне дамаляваць на бляшанай шыльдзе тлустага немца з конаўкай піва ў руцэ. Я справіўся зь яго-ным даручэньнем, відаць, добра, бо з тае пары я ўжо не фарбаваў падлогаў ці сьценаў, а каб фарбаваць дах дык, мусіць, зусім забыўся, як вяжацца пэндзель на доўгім кіі. Дрэйцер перастаў выкарыстоўваць мяне для такіх фізычна цяжкіх працаў.

За два гады навучаньня я ўжо мог рабіць росьпісы столяў, фарбаваць панэлі пад дуб, пад птушынае вока, маляваць на столях розныя разэткі ды бардзюры зь вінаградных гранкаў, рэзаць трафарэты для складаных шматфарбных арнамэнтаў. У тыя гады былі моднымі гэтыя росьпісы і малярна-жывапісныя працы, якія каштавалі даволі дорага і былі ходкім таварам на рынку.

У летнія месяцы навучэнцы нашай прафтэхшколы выконвалі працы па росьпісах столяў ня толькі ў дзяржаўных установах, але і на прыватных кватэрах.

У пачатку лета 1929 г. у прафтэхшколу зайшоў нейкі мужчына і на добрай беларускай мове папытаўся Дрэйцэра, каб той даў яму лепшых навучэнцаў для выкананьня малярных прац, падкрэсьліўшы, каб яны маглі ня толькі фарбаваць, але і маляваць.

Прозьвішча гэтага чалавека было Аляксандр Каменскі. Ён быў настаўнікам беларускай літаратуры і выкладчыкам у беларускім пэдтэхнікуме, да таго-ж прыходзіўся родным братам жонкі Якуба Коласа. Каменскі шукаў хлапцоў, якія маглі пафарбаваць двухпавярховы будынак зь цесанага бярвеньня, што належаў Якубу Коласу. Трэба было пасьпець за лета афарбаваць хату звонку, дах і ўсё ўнутранае ўбраньне, бо і ў сярэдзіне хаты ўсё зроблена з дрэва, нават столя абшыта роўнымі дошкамі.

Зараз, калі сустракаю Данілу Канстантынавічу Міцкевіча, сына Якуба Коласа, усплываюць у памяці ўсе дэталі гэтага лета, нават драбніцы...

Працуем мы з Шурыкам Шымановічам, маім калегам з прафтэхшколы, фарбуем вокны, а да нас заходзіць Даніла, яму, мабыць, гадоў 15, ён маладзейшы мяне на тры гады.

—Хлопцы, кажа ён, — хто з Вас абодвух правясіць болей на дзвярох? Той выйграе тры яблыкі.

А ці цяжка нам вісець? Мы-ж займаемся

Працяг. Пачатак №5-8(18)

фізкультурай на турніках, гуляем у футбол. Згаджаемся на прапанову. Даніла сочыць час па вялікаму гадзіньніку, што стаіць побач, як-бы ў доўгай шафе. Я праігрываю, бо Шурка Шымановіч старэйшы за мяне на два гады і, відаць, мацнейшы. Яблыкамі ён, пэўна, падзяліўся з намі. Яны былі з Коласаўскага саду.

А калі фарбавалі вонкавыя сьцены хаты, дык Даніла нам загадваў скокваць з козлаў. Козлы тыя каля трох метраў вышыні, як саскочыш, то ногі, здаецца, у тулава ня лезуць. Але мусіш саскокваць, бо гонар маеш. Такая гульня забірала многа часу, а за гадзіну працы мы атрымоўвалі па 25 капеек, такая ўмова была зь дзядзькам Каменскім. Працавалі па 12 гадзінаў, каб было роўна па 3 рублі на чалавека. Забягаў да нас Міхасёк, яму, мабыць, было каля трох гадоў, але цешыла слых, як прыгожа ён гаварыў на роднай мове. Юрку я нешта не ўспамінаю, можа ён трымаўся стараною, а можа недзе гасьціў у свайго дзядзькі.

Жонка Коласа была вельмі прыемнай жанчынай, мы адразу яе палюбілі і зусім не сароміліся да яе зьвяртацца. Яна ў часы абеду прыносіла нам на другі паверх паесьці нешта смачнае і з ласкаю прапаноўвала хутчэй садзіцца за стол, пакуль гарачая ежа. Іншы раз прыносіла яна з свайго саду міску агрэсту ці вішняў. Часамі яблыкі. Усё рабілася так, быццам-бы мы былі ейныя сваякі.

На ніжняй верандзе працаваў скульптар Заір Азгур. Гэта быў сярэдняга росту з кучаравай галавою юнак. На ім была талстоўка, а замест гальштука вялікі чорны бант. Гэты аксэсуар ды яшчэ нейкая смугляватасьць надавала яму падабенства да Пушкіна. Ён, відаць, чуў гэта ад нейкага, можа і не адзін раз, таму адпусьціў яшчэ і бакенбарды. А тая напускная важнасьць перад намі рабіла яго быццам-бы больш значным, бо ён мастак, а мы маляры-рабочыя. З другога боку ён ведаў, што быць рабочым у той час было важнай справай. Таму ён часта пускаўся ў разважаньні, што, маўляў, мы таксама рабочыя, бо іншы раз працуем з молатам і зубілам, калі прыходзіцца высякаць з камня фігуру чалавека.

Ляпіў ён тады па нейкаму заказу ў першы раз бюст дзядзькі Коласа. Вакол станка былі разложаны фота, дзе Якуб Колас глядзеўся з анфасу, з профілю, нават са згубляннага профілю, амаль з патыліцы. Як потым я ўбачыў, што гэта быў лепшы Азгураўскі метад рабіць бюсты, нават пры жывой натуры тых людзей, якія ня маюць часу сядзець ды пазіраваць, бо важныя пасады абсалютна не пакідалі вольнага часу.

Калі прыходзіў на абед Колас, яго жонка запрашала Азгура за агульны стол, бо Азгур пасьля тэхнікума заўсёды быў галодны. Быў час, калі Азгур зарабляў у Белдзяржвыдавецтве, як і ўсе мастакі, скончыўшыя мастацкі тэхнікум. Толькі што ён там рабіў, ня ведаю, бо маляваць Азгур ня ўмеў, і мы ніколі не бачылі яго малюнкаў. Гэта здавалася дзіўным, бо школа вучыць маляваць адразу, а такога, каб нехта пасьля заканчэньня аддзяленьня скульптуры ці графікі ня мог маляваць, амаль што не бывае.

Можа на 15 хвілінаў у дзень перад абедам Якуб Колас сядзеў нерухома ў крэсле, а вакол яго бегаў, мітусіўся Азгур, каб ухапіць нешта з боку ці са спіны. (Звычайна натуршчык сядзіць на круглым станку, які можна круціць на той бок, які патрэбен скульптару, але тады яшчэ ніхто мабыць ня меў такіх станкоў, бо ўсё толькі пачыналася і ўсё было ўпершыню). Тады

ў Менску яшчэ ніхто ня ўмеў рабіць кускавую форму, каб можна было афармаваць пяць ці нават дзесяць адліўкаў. Рабілі так званую чорную форму і толькі на адзін адлівак. Так вось аднойчы і да Коласаўскага дому фарматар Гельгіс са сваім памочнікам Левіным прывезьлі на тачцы гіпсу, каб здымаць форму з гліны—партрэт Якуба Коласа.

Той прымытыўны спосаб атрымаць чорную форму заўсёды быў рызыкоўны, бо гліну (інакш кажучы, партрэт з гліны) кавалкамі здымаеш з формы. Партрэта ўжо няма, а ці атрымаецца хоць адна адліўка невядома, бо і форма гіпсавая зьбіваецца зубілам з гіпсавага партрэта.

Трэба было паглядзець, як хваляваўся Азгур ды тыя фарматары, што громка ў голас адзін аднаго пераконвалі ў сваёй праваце. Шуму і гвалту нарабілі шмат, і цяжка было зразумець, хто чаго хацеў. Адразу запаскудзілі ўсю веранду ў гіпсе, нават сьцежкі да яе быццам у сьнезе былі. Усё сьціхла тады, калі апошнія кавалкі гіпсу ўпалі на падлогу.

Пасьля Азгур зрабіў партрэт дзядзькі Купалы такога-ж памеру, як і Коласаўскі. На фасадзе першага БДТ былі дзьве нішы, куды, на места бюстаў Пушкіна і Гогаля ўстанавілі партрэты беларускіх песьняроў Купалы і Коласа. Рабілася гэта ў час беларусізацыі, але пасьля, калі ішоў капітальны рамонт і насядаў паўсюль інтэрнацыяналізм, гэтыя творы разбурылі.

Цяжка зараз успомніць, каб я чуў як чытае ў слых свае творы Якуб Колас. Калі мы працавалі малярамі ў ягоным доме, дык, на жаль, ніводнага разу зь ім не размаўлялі. Усё рабілася праз дзядзьку Каменскага. Калі мы ўжо скончылі працу Аляксандр Дзьмітрыевіч даў кожнаму па кніжцы «Сымон музыка» з дароўным надпісам, але не ад Коласа, а ад яго, Каменскага.

Праца ў доме Якуба Коласа скончылася тым, што мы да ўсяго пафарбавалі дах медзянкаю, якая вельмі доўга трымаецца, амаль 10 гадоў. Кожны з нас атрымаў па 90 рублёў, якія мы мелі скарыстаць у восень 1929 г., каб паехаць у Віцебск і трымаць экзамены ў мастацкі тэхнікум, аб якім марылі даўно. Пакідаючы дом Якуба Коласа, мы быццам-бы гублялі нешта роднае. У гэтай хаце мы часта мелі гутаркі з дзядзькам Каменскім.

Памятаю адзін вечар, калі дзядзька Каменскі разгарнуў кнігу Коласа і прачытаў нам верш «Асадзі назад».

—Паверце,— казаў ён,—гэты верш напісаны яшчэ ў 1908 г, калі было вельмі рызыкоўна пісаць так. Але Колас заўсёды быў мужным чалавекам.

Мы слухалі гэты верш, як зачарованыя. Так проста, быццам-бы весела гаворыцца пра спрадвечныя праблемы беларусаў. Але гэта быў смех праз сьлёзы, які будзеш памятаць заўсёды.

Ад Каменскага мы даведаліся дасканала аб творчасьці Коласа, а галоўнае зразумелі, што патрыятызм—гэта любоў да Бацькаўшчыны, веданьне сваіх каранёў, сваёй мовы. Вось так пад дахам Коласаўскай хаты мы прайшлі поўны курс любові да сваёй зямлі, сваёй Бацькаўшчыны. І гэтыя вурокі запомніліся на ўсё жыцьцё.

Адразу пасьля вайны мне давялося афармляць зборнік дзіцячых апавяданьняў Якуба Коласа. Кожнае апавяданьне мела сваю ілюстрацыю, былі малюнкі на ўсю старонку. Ніякай сустрэчы з аўтарам у нас не было. Нават калі я рабіў карціну «Кастусь на канікулах». Усе размовы ішлі толькі з Данілам. Той ужо быў дырэктарам літаратурнага музэя свайго бацькі. Маёй

апошняй работай па Коласаўскай тэматыцы быў вялікі трыпціх. Левая частка карціны адлюстроўвала Якуба Коласа у час, калі ён запісваў фальклёр. У цэнтральнай частцы Якуб стаяў акружаны дзецьмі. На правым баку ён быў на касьбе разам з дзядзькам Антосем.

Таксама з пачатку трыццатых гадоў я зрабіў некалькі афортаў з партрэтамі Якуба Коласа, у тым ліку і кніжныя знакі з вобразам нашага вялікага песьняра.

Вось такімі былі ў маім жыцьці сустрэчы з Якубам Коласам.




Мастак У.Басалыга

# Лісты і вершы Уладзіміра Караткевіча



*У.Караткевіч, пачатак 70-х гадоў. Кракаў. Друкуецца ўпершыню. У сваім лісьце да Леаніда Крыгмана ад 6 травеня 1974 г. Караткевіч пісаў: «Посылаю тебе....сцену в Кракове, у выставки «шопок», когда я самозванно показал куклой, как чёрт борет поляка —шляхтича. Это поопаснее змеи. Могли затолочь.»*

*У чым ёсьць трагічнасьць фэнамену кожнага сапраўднага таленту? У тым кароткім імгненьні часу, які адводзіцца таленавітаму творцу лёсам на гэтай планеце? У мностве перашкодаў і цяжкасьцей, якія часьцей за ўсё ягоны спадарожнік? А можа быць у тым, што пасьля фізычнай сьмерці цікавасьць да ягонай творчасьці не зьмяншаецца. З кожным годам мы адкрываем для сябе ўсё новыя грані ягонай здольнасьці дарыць нам сусьвет, дарыць нас саміх сябе сусьвету. І з кожным годам мы ўсё больш асэнсоўваем цяжкасьць нашай страты.*

*Сумны закон таленавітасьці, непадуладны ніякім законам тлумачэньня. Ён не абмінуў і Уладзіміра Караткевіча. Будучы зусім маладым і вядомым толькі невялікаму колу літаратараў і сапраўдных аматараў паэзіі, ён, у сваім лісьце да сябра пісаў пра Катулу: «Два тысячелетия проехались по его бедным костям, а он живёт. Дай бог всякому такой завидной учести.»*

*Ён і не думаў, што пасьля ягонай фізычнай сьмерці нехта зь сяброў, а таксама былых зайздросьнікаў, скажа нешта падобнае і аб ім самім. Ён ня мог аб гэтым нават марыць, бо лёс Караткевіча быў зусім не зайздросным у звычайным, матэрыяльным разуменьні сэнсу чалавечага жыцьця. Чалавек, які апярэджаваў свой час, пісьменьнік, які яшчэ пры жыцьці, адчуваючы сваю сілу і моц прарок: «Быў. Ёсьць. Буду», —доўгі час заставаўся ў нявядомасьці. Прызнаньне народу ўсё-такі прыйшло да яго. На жаль, позна, бо занадта-ж рана ён уйшоў ад нас. 26 лістапада гэтага году яму споўнілася-б 62 гады.*

*Аб тым, якім цярністым і няпростым быў шлях Уладзіміра Караткевіча да прызнаньня сьведчаць ягоныя лісты да школьнага сябра Леаніда Крыгмана, якія мы працягваем друкаваць у часопісе «Полацак».*

Працяг. Пачатак у № 9, 1991 —2(12), 1992

17 апреля 1956 г.

Здоров паря!

Я, конечно, само собой не обижаюсь, но, промежду прочим, если ты и на следующее моё письмо ответишь так же аккуратно, то оно не застанет меня в Лесовичах. Я уже подал заявление об уходе и приложу все усилия, чтобы на следующий год не быть здесь. Оно и лучше. И для меня, и для всех. Шибко уж большая нудота торчать здесь. И пользы никакой.

Сегодня перебрался с зимней половины хаты на летнюю, окно открыто, тепло. Книги все передо мной, огромный стол, на котором можно разложиться как угодно, полная свобода в небольшой комнатке. Сижу и ем яблоки-тиральки (один друг здешний выкопал из земли мешка два, ну и мне перепало). Время провожу так себе. Давеча едва не попал в положение гоголевского Левко. Шёл с приятелем ночью домой и узрел на скамеечке директорского дома некую особу, наймичку оного директора. Сели возле и начали разговор. Выглянула жена директора, приняля нас за воздыхателей и тайком позвала мужа. Дело едва не кончилось побегом от разьярённого хозяина. Чудесный между прочим парень наш нынешний директор, редкий парень.

Сейчас читаю Брет Гарта, достал полное собрание сочинений. Кончил только что одно дело, перевёл с латыны 23 стиха А.Катулла. Уверен, что их не напечатают, но уж слишком он хороший поэт, не выдержал, соблазнился. Вот чёрт возьми. Два тысячелетия проехались по его бедным костям, а он живёт. Дай бог всякому такой завидной учести. На табе дзеля такога выпадку два вершы. И в придачу к ним один свой пустячок, может и найдешь в сей нявозной куче нечто достойное внимания...

В Минск переберусь вряд ли. Или в Киев (асп. при инст. л-тры), или Орша. И то, и другое неплохо. «Феникс» замер и будет так держаться пока я при встрече всерьёз не поговорю с Танком. Он имет на это право. Да и писать здесь нельзя, с материалом швох. Амур на меня ещё не точит стрелу, а ты хоть и из молодых да ранний, я тебе это всегда предсказывал. Что бы сказала Екатерина Ивановна, а? «Тараса» летом пришлю и если найду «Полымя»—тоже, только это надо как-то не забыть, а то выскочит из башки и всё. Ты мне напишеш. В «Литературке» раньше чем через полтора года не ищи. А я постараюсь приложить к тому все усилия, чтобы заслужить это право. Да, а с «бачкой» дело вышло совсем скандально, гадость страшная и обгажен не он один. Фотография это искуство конечно, только ...ну как это сказать, может это скорее мастерство. Фотограф может создать снимком настроение и твой снимок просто прекрасен, но я всомнил «Над вечным покоем» Левитана. На оз.Удомля такой церковки, как там, нет, он зарисовал её в другом месте. И вот этого не сможет сделать фотограф, а у Левитана сливается это в одно: стальная вода, хмурые берега, ветер, гнущийся куст и эта жалкая капличка с крестами кладбища. Но вообще что-то подобное, если сама природа компанует это можно сделать. А вообще снимок прекрасен, и ты мне льстишь этим сравнением. Вот до чего сурово! Ты видел «Осторв Мёртвых» Бёклина. Что-то похоже Ну вот. Обнимаю. Привет Музе. Пиши.

Владимир.



/З Катула/

Фурый мілы мой і Аўрэлій верны!
Вы сябры Катулу, хаця б да Інду
Я пайшоў бы, дзе мора б'е валамі
Аб бераг гулкі.
Ці ў краіну Гіркан, Арабаў пышных,
Да Сакаў і Парфян, што страляюць з лука,
Ці туды, дзе Ніл семівусты мулам
Мора пятнае.
Ці прайду лядзяныя Альпаў кручы,
Дзе паставіў слупы славуты Цэзар,
Гальскі Рэйн пабачу, або дальніх Брытаў
Страшнае мора.
Усё, што лёс пашле, перажыць са мною
Вы спраможны. Што ж, перадайце любай
Як „бывай!" ад Катула слоў нямнога
Злых і апошніх.
Са сваімі няхай кнырамі дружыць!
Абнімае іх адразу па тры сотні,
Не кахаючы і воднага, а печань
Кожнаму рвучы.
Толькі пра маю хай страсць забудзе,
Па яе віне высахла сэрца.
Быццам кветка сцяпей, прайшоўшым плугам
Кранутая на смерць.



Гэты малюнак Ул. Караткевіч намаляваў да верша «На паўстанках засыпаных лісцем бярозавым...» гл. б.42

## На павяртанне Веранія.

Мой Вераній, мой сябра! З многіх тысяч
Самы любы і самы ненаглядны!
Ты пад родную страху павярнуўся
Да маці сівой і любых брацьцяў.
Павярнуўся! О радасныя весткі!
Я пабачу цябе, пачую слова
Пра Ібераў, краіны і народы,
Як раней ты распавядаў. І шыю
Абніму, твае вочы, твае вусны
Пацалую. Гэй, слухайце, шчасліўцы!
Хто шчаслівей мяне і багацей?

(Гэта ўжо не з Катула, а з Караткевіча)

На паўстанках, засыпаных лісцем бярозы,
Дзе з пагардай цягнік раз на дзень прабяжыць,
У прастой хаце, пускаючы горкія слёзы
У калысцы будучы Колас ляжыць.
Там, дзе Basso cantante дэманструюць карчмы,
Там, дзе фугі пакуль што дурніцамі звуць,
Дванаццаць першага веку галапузы Бетховен
Бацькін сподак шпурляе, каб звон пачуць.
А ў пачынку глухім, на траўцы зялёнай,
На задворках сялібы, ля самай ракі,
Распатланы Шаляпін ровам шалёным
Памантуе з-пад матчынай жорсткай рукі:
О, як шанаваць трэба юныя плечы
Дзеля будучай славы краю свайго!
Як патрэбна шукаць на шляхах чалавека,
Як любіць, берагчы, не крыўдзіць яго.

(Лістапад-студзень 1956 г

Здраствуй Леонид!

...Что случилось за это время? Напечатали мою «Баладу пра паўстанца Ваўкалаку» і «Стаю ў начы ў завіруху» у сентябрьском номере «Полымя», а я их даже сам не имею. Теперь А. Вялюгін пишет, что ужо видел у ноябре номер журнала «Маладосьць» за январь месяц, где не то шесть, не то сем моих стихов, краткая автобиографическая справка и фотография. Он уже сообщил, что штук пять-шесть новых стихов пойдет в февральский номер «Полымя», среди них «Дзіўны выпадак на выстаўцы індыйскага мастацтва» «Цяга», «Сырцовыя цагліны» і что-то ещё. Сейчас готовлю удар по четырём направлениям—в «Маладосьць», «Беларусь» у в газету «Літаратура і мастацтва». Сия последняя поместила в номере за тринадцатое октября мадригальную статью обо мне, где я был поставлен в пример всем молодым как пай-мальчик, но замечен, однако, в непохвальном стремлении уйти от современности. Вот и все мои дела. «Феникса» не пишу —нет материалов, но думаю, написать на конкурс пьесу (самый поздний срок—15 июля), где напишу о войне. Название будет то ли «Млын на Сініх Вірах», то ли «Цяжкі хлеб». Не будет там особых выстрелов і свер-р-х геройства, а просто история о том как мельник и двое молодых людей кормили хлебом всё партизанское соединение. Не будет казни за взорванный поезд, а будет казнь за ведро соли, понесенное человеком в лес. Всё будет на настроении и конец будет трагичный. Мне надо спешить выйти вперед, а то я замечаю, что становлюсь перерожденцем и мещанином.

Юрка П. возле Осипович, адрес его:БССР, Могилевская обл. Осиповический р-н, м. Лапичи, средняя школа, Падво Ю.М. Он иногда приезжает и на жизнь не жалуется.

Да ты, прав, Киев прелесть. Я всё же буду на следующий год стремиться в аспирантуру. Учительский хлеб вдали от библиотек меня убивает. Ну а как ты, как Муза, как здоровье, не намечается ли в Барнауле увеличение контингента отцов? Ты, однако, молодец, но я тебя переплюнул. Я прошлым летом читал на курсах переподготовки учителей курс белоруской литературы своему собственному учителю Ляшкевичу.Так что ты молчи, всё равно передо мной ты дитя.

А Гелий* этот меня заинтересовал. Я люблю таких людей. Даже познакомился бы. Передавай привет Музе и всем. Жму лапу.

*(Гелій быў маім аднакурснікам па інстытуту. На чацьвёртым курсе ён моцна захварэў, здаецца, на сухоты, кінуў інстытут і пайшоў у лясьніцтва. Калі я выпадкова сустрэў яго ў Барнауле, ён быў абсалютна здаровым. Я апісаў гэты выпадак Уладзіміру і гэта яго зацікавіла —* ***Леанід Крыгман****).*

31 января 1957 г.

Кито ето? Впърочемь я знаю кито ето. Ето Киригман. Ну, Киригман, я от вас такой низменности не ожидал. (Из диалога в темноте)

Так вот, начинаю с собщения сведений о себе. Я удрал из Лесович в Оршу и поступил на работу в оршанскую школу №8 (новая за Днепром, ещё дальше чем пятая, а директором её преподававшая нам некогда зоологию Ефрасинья Дмитриевна Кинцевич), в коей имею сейчас всего 13 часов в неделю («волоки кое-как ноги, но не сдохни с голоду»), обещают, впрочем, еще и в третьей школе несколько часов. Профессиональство меня еще прокормить не может. Будь я один — я бы бросил и писал, чтобы не терять времени. Но у меня ведь есть отец и мать. Профессиональство пока что еще вещь нерентабельная, даёт она мне в

среднем, если разделить гонорары поровну, рублей сто с небольшим в месяц. Можно было бы заколотить и больше, но это уже халтура, а я к гонорарам равнодушен всегда был. А с номерами журналов действительно тяжело, Лёнька, выслал бы с удовольствем, но мне авторских так и не выслали, и то теперь уж я подписался на все журналы, так что хоть по одному экземпляру будет, а раньше, например, я для того, чтоб получить хоть один экземпляр «Полымя» №9 за 56 г., где были непечатаны мои «Балады пра паўстанца Ваўкалаку» і «Стаю ў начы» должен был сговориться с Раей Короткиной (она работает теперь в педкабинете) и злокозненно похитить оный номер журнала. И теперь хотел тебе послать номер «Маладосьці» №1, где мои «Бацькаўшчына», «Ялінка», «Рута ў халоднай расе», договорился с почтой, что оставят с десяток розничных экземпляров, но видимо их не будет на Оршу, потому что вот ужо почти две недели прошло и не слуху, ни духу. Что поделать, тираж небольшой, почти целиком расходится по подписке, львиная доля Минску и областным городам. Так что пошлю только тогда, когда удастся добывать больше экземпляров чем один. Да и что ты беспокоишься, я ведь тебе посылаю переписанные.

Вам, конечно, надо перебраться в Киев. Я тоже буду вторым Катоном на твою голову, хотя вообще-то нигде столько швали как не Украине. Всякая карьеристская дрянь непременно лезет туда и там очень трудно дышать в городах, не чувствуют этого только органиченные люди. А в идейный жизни так такая жандармерия, что хуже и быть не может.

А насчет стихов моих ты тоже завернул. Иронизируеш, гад печёный. Но здорово, что ты не забыл языка .Слово «дойлід» означает «зодчий», и даже ещ ё чуть-чуть архаичнее, вроде как «первостроитель», «пpастроитель». Книг мне пока ещё не надо, а вот стих получай. И как только достану лишний экземпляр какого-либо журнала—сразу вышло.

Мои все здоровы, крошки у нас ещё есть, но немного. Лялька в 9 класе. Занимаюсь я преимущественно писаниной, почти никуда не хожу. Муриев работает в Минске, в политиздате, о Хмелевском не знаю ничего. В Орше сейчас на каникулах Нелли Голубович, я бываю у нее:

«Цяжкі хлеб» будет не «Цяжкі хлеб», а «Млын на Сініх Вірах», если вообще будет: Что-то трудно.

Ну кончаю. Очень-очень много дела .Ты уж извини. Крепко жму руку. Пиши. Привет Музе.

Валун „Каменны воўк“ ля Дуброўны.

Воўк самотны на кургане.
Шчэ далёка да світання.
Месяц прывідным светлам
Дагарае над сялом.
Прапльіваюць карагодам
За стагоддзямі стагоддзі,
Людзі нікнуць, быццам сны,
Іншыя гараць агні.
Толькі воўк стаіць зямлісты
Увесь закуты ў шэрань белы.
Усё мінае, як завея.
Воўк маўчыць.
Ён разумее.




# Уласнаручныя паказаньні Езавітава, Канстантына Барысавіча

Пасьля пераезду Беларускай Цэнтральнай Рады ў Бэрлін становішча яе доўгі час было вельмі неакрэсьленым. Створана яна была загадам генеральнага камісара Беларусі ген. фон-Гольдбергам для акупаванай часткі Беларусі, і павінна была, на думку Гольдберга, дапамагаць яму ў ягонай дзейнасьці, прыкрываць сваім беларускім назовам і складам тую бесчалавечную эксплуатацыю і прыгнёт беларускага народу, які праводзілі немцы. Асабліва неабходна была для барацьбы з партызанамі, і таму БЦР было дазволена фарміраваньне Беларускай Краёвай Абароны. З функцыяў-жа «цывільнага кіраваньня» ёй былі дазволены толькі дзьве: асьвета і сацыяльная дапамога.

БЦР спрабавала вылезьці з накладзенага на яе хамута. Праз II Усебеларускі Кангрэс яна, здавалася-б атрымала ўжо паўнамоцтвы непасрэдна ад самога беларускага народу, паколькі можна было гаварыць аб II Усебеларускім Кангрэсе, як аб прадстаўніцтве і народным волевыяўленьні.

У Бэрліне гэнеральнага камісара над Беларускай Цэнтральнай Радай ужо не было. Куды ён зьнік і куды эвакуаваў увесь адміністрацыйны апарат генеральнага камісарыяту Беларусі, дакладна невядома.

Хамут зьляцеў з БЦР пад ударамі Чырвонай Арміі і партызанаў па Менску і Заходняй Беларусі. Прэзыдэнт Астроўскі і БЦР былі рады гэтаму новаму становішчу і падняліся этажом вышэй у сваёй дзейнасьці, вступіўшы ў Бэрліне ў непасрэдныя адносіны з Міністэрствам усходніх абласьцей, пры якім спачатку выдзелілі асобага рэфэрэнта для вывучэньня пытаньня аб становішчы БЦР, (рэфэрэтаў гэтых зьмянілася некалькі чалавек, так як з складу Остміністэрства забіралі на фронт чыноўнікаў, якія засядзеліся там. Мне Астроўскі скардзіўся у жніўні, што вось ужо 3-га рэфэрэнта прыходзілася інфармаваць ад самога пачатку), а затым у канцы жніўня 1944 г. быў створаны асобы беларускі аддзел, зь якім БЦР у далейшым і мела пастаянную сувязь.

У ліпені й жніўні ў БЦР, акрамя высьвятленьня свайго юрыдычнага становішча перад нямецкімі ўладамі, стаяла пытаньне аб уладкаваньні эвакуаванага зь Беларусі насельніцтва, у асяродзьдзі якога пачала разьвівацца апазыцыя супраць БЦР. На чале гэтай апазыцыі стаяў старшыня II Усебеларускага Кангрэсу—Кіпель. Вельмі перашкаджала БЦР власаўскае мерапрыемства, якое ўзмацьнялася і падтрымлівалася немцамі: Власаў імкнуўся тады стварыць свой Камітэт Народаў Расеі. Падымалася нават пытаньне аб роспуску БЦР, каб самароспускам пратэставаць супраць мажлівага падчыненьня Власаву.

Пасьля падачы асобага мэмарандума БЦР на імя нямецкага ўраду і ў асаблівасьці пасьля вялікага мітынгу, які быў праведзены ў адным з прыбэрлінскіх завадзкіх клюбаў, становішча БЦР высьветлілася, і яна атрымала мажлівасьць працягваць сваю дзейнасьць.

Юрыдычна дзейнасьць гэта працягвала грунтавацца на «Статут Беларускай Цэнтральнай Рады», які быў зацьверджаны генеральным камісарам Гольдбэргам 20

сьнежня 1943 г у Менску. Гэты статут прадугледжаваў склад БЦР у колькасьці 15 сябраў з прэзыдэнтам БЦР Астроўскім на чале, з двума заступнікамі—Шкелёнкам і Сабалеўскім і некалькімі кіраўнікамі аддзелаў БЦР, якія ўсе ўваходзілі ў гэтую колькасьць 15 сябраў БЦР.

Статут Гольдбэрга не задавальняў радных з самага першага дня яго стварэньня, таму ў Бэрліне адразу-ж пачаліся спачатку прыватныя размовы, а потым і афіцыяльныя паседжаньні БЦР аб зьмяненьні яе статута на больш шырокі. Пасьпяшацца з гэтай справай вымусілі таксама і тыя абставіны, што з асяродку беларускіх нацыянал-сацыялістаў, праз радных Міхаіла Ганько, былога шэфа Саюзу Беларускай Моладзі, вынесены ў БЦР на абмеркаваньне праэкт стварэньня «Саюза Вызваленьня Беларусі». У гэтым праэкце БЦР убачыла спробу беларускіх нацыянал-сацыялістаў забраць Б ЦР цалком у свае рукі. Таму ўжо ў верасьні адначасова з камісіяй па разгляду Статута «Саюза Вызваленьня Беларусі» была створана і камісія па складаньню новага статута БЦР. Гэта камісія падрыхтвала і праэкт Канcты-туцыі Беларусі.

Праэкт распрацоўвала камісія, склад сябраў якой быў з прадстаўнікоў нацыянальна-дэмакратычных (Шкелёнак і Сьвірыд) і сацыялістычных поглядаў. Акрамя таго на праэкт уплыла і тая акалічнасьць, што ён быў разьлічаны ўжо на немінучае падзеньне нацыянал-сацыялістычнага рэжыму і на поўны разгром гітлераўскай Нямеччыны, які ўжо адчуваўся. Таму залежна з поглядамі большасьці БЦР, праэкт Канстытуцыі быў складзены ў народна-дэмакратычным духу і павінен быў зьяўляцца дакумэнтам, які даў-бы радзе мажлівасьць супрацоўніцтва з саюзьнікамі пасьля акупацыі Нямеччыны.

2 сьнежня 1945 г., Менск Подпіс.

Праэкт прадугледжаваў, што незалежная й аб'яднаная ў сваіх этнаграфічных межах Беларусь будзе мець назоў, які быў прыняты ўжо ў 1918 г.,— Беларуская Народная Рэспубіка. На чале БНР павінен стаяць выбраны ўсеагульным, прамым і тайным і роўным для ўсіх грамадзян або двух палоў галасаваньнем прэзыдэнт БНР і Рада БНР. У галасаваньні мелі права прымаць удзел усе грамадзяне, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту, калі яны не былі пазбаўлены гэтага праву судом за садзеяньне або праступства.

Каб пазбавіцца пярэчаньня і супрацьдзеяньня гэтаму праэкту з боку нямецкіх уладаў, у праэкце было ўказана, што да вяртаньня на тэрыторыю нямецкіх уладаў, прэзыдэнтам БНР лічыцца прэзыдэнт Астроўскі, а функцыі БНР будзе па ранейшаму выконваць існуючы ўжо і зацьверджаны II Усебеларускім Кангрэсам Беларуская Цэнтральная Рада.

Праэкт прадугледжаваў стварэньне беларускага ўраду, адказнага перад парлямэнтам, г. зн. перад Радай БНР. У першапачатковай рэдакцыі назоў «урад» зьмяніўся на «кабінэт міністраў». На чале яго павінен спаяць прэмьер-міністр, якіна мечаўся (маецца на ўвеце назнаўчаўся—Рэд.) Прэзыдэнтам БНР, атрымоўваў ад яго даручэньні скласьці кабінэт міністраў. І, разам з урадавай дэклярацыяй аб пляне і палітычным накірунку работы кабінэта, павінен быў прадставіць складзены кабінэт на зацьверджаньне пленума Рады БНР, ад якога і залежала канчатковае зацьверджаньне кабінэта і дэкляpацыі. Каб гэта частка праэкта не вызвала падазрэньняў і супрацьдзеяньня з боку немцаў і былых беларускіх нацыянал-сацыялістаў, якія былі ў іх на повадзе, якіх у БЦР прадстаўлялі Ганько й Абрамава, было вырашана ў кан-

чатковай (афіцыяльнай) рэдакцыі праэкта Канстытуцыі назваць беларускі ўрад калегіяй, а міністраў называць сябрамі калегіі. Пры гэтым, у мэтах яшчэ большай канспірацыі самога факта стварэньня беларускага ўраду, было вырашана, што функцыі міністраў у неабходны момант возьмуць на сябе кіраўнікі ўжо існуючых у БЦР аддзелаў, якія і складуць калегію. У далейшых разьдзелах Канстытуцыі, якая была разьбіта на параграфы, агульны лік якіх я не магу зараз прыгадаць, азначаўся сацыяльна-эканамічны лад БНР, а таксама яе адміністратыўнае кіраваньне. БНР прадугледжавала складацца з акругоў (у адносінах да ўжо існуючых акругоў у БССР), падзеляных на паветы (уезды, раёны) і воласьці (сельсаветы). У валасьцях, паветах і акругах павінна было дзейнічаць мясцовае, выбранае ўсеагульнымі на аснове «чатыроххвосткі» выбарамі, самакіраваньне. Органамі самакіраваньня былі-б: валасная рада, павятовая рада й акруговая рада.

Банкі, вялікая прамысловасьць і замежны гандль павінны былі быць у руках дзяржавы. Дробная таргоўля і кустарнае рамесьніцтва маглі быць і ў прыватных руках, але пры гэтым дэкляравалася, што ў БНР перавага і дзяржаўная дапамога будзе аддавацца пераважна каапэратывам і арцелям. Усе працоўныя, незалежна ад таго, дзе і ў якой галіне яны працуюць, павінны быць застрахаваныя на старасьць, ад няшчасных выпадкаў і хваробаў.

Пры гэтым прадугледжавалася, што ўсе грамадзяне-працоўныя па дасягненьні імі 55-гадовага ўзросту павінны атрымоўваць пэнсію. Інваліды працы атрымоўваюць пэн-сію незалежна ад ўзросту, але лічылася з працэнтам затрачанай працаздольнасьці.

У аснове земляўладаваньня павінна была быць хутарная гаспадарка, але жадаючыя грамадзяне маглі аб'ядноўвацца ў калектыўныя гаспадарчыя аб'яднаньні, а таксама арганізоўваць пасёлкі і выселкі. Для арганізацыі вялікіх узорных гаспадарак дзяржава ўтрымлівала ў сваіх руках дзяржаўныя гаспадаркі. Памешчычых лятуфундыяў і знаходжаньня вялікай колькасьці зямлі ў адных руках не дапушчалася. Прычым найвышэйшай нормай, якой магла валодаць аднаасобная гаспадарка, устанаўлялася норма ў 30-50 га (у залежнасьці ад якасьці зямлі).

Рэлігія прызнавалася прыватнай справай веруючых грамадзян і рэлігійныя аб'яднаньні маглі ствараццa імі абсалютна вольна. Дзяржава ня ўмешвалася ў іх кананічную і парафіяльна-царкоўнае жыцьцё, але патрабавала, каб гэтыя арганізацыі вернікаў стаялі на аснове прызнаньня беларускай народнасьці, беларускай культуры і мовы у пропаведзях, а таксама на аснове прызнаньня і падтрымкі незалежнасьці БНР. Праваслаўныя беларусы атрымалі сваю беларускую аўтакефальную мітраполію. Баптысты — беларускае япіскапства. Каталікі павінны былі стварыць беларускую каталіцкую мітраполію зь беларусам-мітрапалітам на чале, каб адмежаваць беларускае каталіцкае насельніцтва ад прапалячваньня, якое праводзілася стагодзьдзямі і насаджалася чужымі сацыяльна і нацыянальна варожымі беларускаму народу соймам каталіцкіх ксёндзоў-палякаў.

20 студзеня 1945 г. у памешканьні БЦР, на Гумбінен вул.№ 26 у Бэрліне, адбылося паседжаньне БЦР. На ранішнім юбілейным паседжаньні былі прыняты ў склад БЦР у дапаўленьне да15 асноўных радных яшчэ 10 новых сябраў, і быў абвешчаны ў першым чытаньні праэкт Канстытуцыі. На вечаровым паседжаньні праэкт быў прыняты па пунк-

тах і зацьверджаны ў трэцім чытаньні цалком. Прэзыдэнт Астроўскі, які вёў гэтыя абодва паседжаньні, прапанаваў выбраць прэзыдыюм БЦР на аснове новай Канстытуцыі.

У прэзыдыюм былі выбраныя: старшынёй БЦР—Юры Сабалеўскі, заступнікам старшыні —Антон Адамовіч і сакратаром—Сямен Кандыбовіч.

Затым Астроўскі паведаміў, што на аснове новай Канстытуцыі ён даручыў свайму І-му намесьніку Мікалаю Шкелёнку, скласьці калегію, каб на заўтрашнім паседжаньні Шкелёнак прадставіў БЦР на зацьверджаньне склад калегіі й яе дэклярацыю.

21 студзеня 1945 г, адбыліся яшчэ 2 паседжаньні, якімі кіраваў ужо Сабалеўскі. На раньняшнім паседжаньні прэмьер калегіі паведаміў аб яе складзе, а затым абвесьціў дэклярацыю.

У склад калегіі ўвайшлі:

Старшыня калегіі (прэм'ер)—Мікалай Шкелёнак,

2.Начальнік ваеннага кіраваньня —Канстантын Езавітаў,

3.Загадчык адміністратыўным аддзелам (павінен быў пераўтварыцца з часам у міністэрства ўнутраных справаў)—Буката Арнольд.

4.Загадчык аддзелам прапаганды і культуры (у далейшым павінен быў падзяліцца на два асобныя міністэрствы) —Калубовіч Аўген.

5. Загадчык аддзелам прапаганды — Хмара Сяргей.

6. Загадчык аддзелам фінансаў—Каракулька.

7.Загадчык аддзелам плянаваньня —Тамашчык

8 Загадчык аддзелам сацыяльнага забесьпячэньня —Беленіс Антон

9.Загадчык аддзелам юрыспрудэнцыі і веравызнаньня—Свірід Паўла.

У дэклярацыі прэм'ер Шкелёнак указаў, што новая Канстытуцыя дае мажлівасьць БЦР праводзіць вакол сябе далейшую кансалідацыю ўсіх беларускіх грамадзян, якія находзяцца ў эміграцыіі, а таксама дае аформленую праграму для барацьбы за незалежную БЦР насельніцтву Беларусі, у якой сёньня зноў уведзены савецкі лад. Барацьба за БНР ні пры якіх акалічнасьцях на павінна прыпыніцца.

У сучасны момант у Беларусі кіруе СССР, але ў дальнейшых пэрыпітыях гэтай вайны, а таксама ў мажлівых новых абставінах, ня выключна, што і Польшча, лёс якой сёньня яшчэ няясны, зноў прадставіць свае прэтэнзіі на Заходнюю Беларусь, а мажліва і на новыя беларускія тэрыторыіі. Таму неабходна дабіцца таго, каб кожны беларус ведаў, за што менавіта змагаецца БЦР і адначасна з гэтай духоўнай мабілізацыяй, праводзіць далей вербаваньне для стварэньня беларускаіх вайсковы сілаў, якія будуць апорай БЦР у працягваньні далейшага змаганьня з СССР за незалежную Беларусь. Гэтыя ўзброеныя сілы дапамогуць БЦР супрацьдзеяць адвечным прэтэнзіям Польшчы. Будуць яны рэпрэзэнтаваць Беларускую Народную Рэспубліку й яе ўрад і перад саюзьнікамі.

Дэклярацыя і склад калегіі БЦР былі зацьверджаны пленумам БЦР, і з гэтага моманту лічылася стварэньнем беларускага ўраду, які ва ўмовах гітлераўскай Нямеччыны будзе называцца калегіяй Беларускай Цэнтральнай Рады, а потым, пасьля разгрому Нямеччыны, ужо на аснове прынятай Канстытуцыі, выступіць як кабінэт міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Канстытуцыя БНР была апублікавана ў адным з нумараў газэты «Раніца», а таксама

асобым выданьнем. У гэтай-жа газэце ў наступных нумарах, былі дадзена інфармацыя аб адбыўшайся сэсіі БЦР і зьмешчаны кіруючыя артыкулы з вытрымкамі з асноўнай прамовы прэмьера калегіі магістра юрыдычных навук Мікалая Шкелёнка.

Пасьля прыняцьця новай Канстытуцыі і стварэньня калегіі па-ранейшаму працягвалі працаваць аддзелы БЦР зь іх загадчыкамі, якія ўваходзілі цяпер як сябры ў калегію. Пэрсанальныя зьмены адбыліся толькі ў адміністратыўным аддзеле.

Ранейшы кіраўнік Сямён Кандыбовіч стаў сакратаром прэзыдыюму БЦР і ў адзеле сацыяльнага забесьпячэньня, якім раней кіраваў Юрый Сабалеўскі, які стаў зараз старшыней прэзыдыюма БЦР і перадаў свой аддзел свайму намесьніку Беленісу. Зусім новым быў аддзел плянаваньня, якога ў ранейшым складзе БЦР ня было і ў задачы якога ўваходзіла скласьці плян адбудовы разбураных вайной гаспадарак, гарадоў і мястэчак Беларусі.

3 сьнежня 1945 г. Менск. Подпіс

(Працяг у наступным нумары)



Сядзяць зьлева направа: Юрка Віцьбіч, Ларыса Геніюш, Канстантын Езавітаў, Натальля Арсеньнева (Кушаль). Янка Станкевіч
Стаяць зьлева направа: (?), Мікола Куліковіч (Шчаглоў), Аўген Калубовіч.
Бэрлін, 1944 г.
Фота з архіву Раісы Галяк

# «Архівы КДБ адкрытыя для ўсіх»

*23 верасьня 1992 г. у кабінэце старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча Кастуся Мерляка, Валянтыны Трыгубовіч з старшынёй камітэту КДБ Эдуардам Шыркоўскім і яго намесьнікам Віктарам Дзьмітрыевым. Гутарка, якая адбывалася ў час гэтага спатаканьня, была запісана сп. В. Трыгубовіч на дыктафон. У рэдакцыю часопіса «Полацак» была даслана транскрыпцыя запісу гутаркі, якую мы пасьля скарачэньня і некаторых зьменаў стылістычнага характару, але, захоўваючы асаблівасьці мовы ўдзельнікаў, прапануем чытачу.*

Мерляк: Безумоўна, сёньня я прысутнічаю на гэтай сустрэчы не як беларускі грамадзянін, а як амэрыканскі. Але ў душы я застаюся беларусам, і мне вельмі прыемна спаткацца з Вамі, каб абмяняцца агульнымі думкамі, каб на эміграцыі людзі зразумелі, што вы, старшыня камітэту КДБ, маеце выконваць усе даручэньні, згодна закону і з пашанай да чалавека.

Шыркоўскі: Я вельмі ўдзячны Вам за гэтыя добрыя словы. Я заўсёды перадаваў сваім зямлякам, якія апынуліся на эміграцыі, што ня трэба нічога баяцца, трэба прыязджаць на радзіму. Я думаю, што ўсё нашае грамадзтва павінна помніць, што да ўсіх вас у нас былі адносіны ня вельмі добрыя. Мы ня помнілі аб тым, што вы нашыя землякі, што дзяржава заўсёды павінна клапаціцца аб сваіх грамадзянах, браць іх пад сваю ахову, дзе-б яны не былі. Я заўсёды прытрымліваўся такіх поглядаў, і, мусіць, таму я сёньня зьяўляюся міністрам.

Мерляк: На жаль, за мяжой гэтага не разумеюць. Ёсьць сумнівы й недавер. У тутэйшай прэсе вельмі мала пішацца аб дачыненьнях з Вамі. Успамінаюцца імёны іншых міністраў, вашае-ж, вельмі рэдка. Ведама, што думаецца пры такім інфармацыйным голадзе. Меркавалася, што Вы трымаецеся ад народу адгароджана, як раней трымаліся супрацоўнікі гэтай установы. І сёньняшні мой візіт — гэта першая спроба зламаць гэты стэрэатып.

Шыркоўскі: Я тады хачу, каб Вы сказалі сваім землякам,што сёньняшні камітэт КДБ ёсьць зусім іншым. Ад ранейшага застаўся толькі назоў. Працуюць тут беларусы. Папершае, што яны робяць, гэта абараняюць сваю сувэрэнную дзяржаву Рэспубліку Беларусь. Служаць яны для людзей, а не супраць іх, як было раней. Я ведаю, што да нашай службы ёсьць недавер. Але ўсё пройдзе. Наступіць другі час, паўстануць іншыя пытаньні. Будзе цяжка. Я першы беларус на гэтай пасадзе ў КДБ беларускай дзяржавы. Раней роля камітэту ў былом Саюзе была фармальнай, бо і сувэрэннасьці беларускай ніхто не перасьцярагаў. Гандлявалі землямі й людзьмі, прадавалі беларускія землі без патрэбы...

А як жыцьцё ў Вас на эміграцыі? Я думаю, прыйдзе час, і я прыеду да Вас.

Мерляк: То будзе вельмі прыемнае спатканьне. Калі яно адбудзецца?

Шыркоўскі: Можа, у канцы гэтага году, можа, у пачатку наступнага. Я хачу сустрэцца зь землякамі, выступіць перад імі, адказаць на ўсе пытаньні, якія іх хвалююць.

Мерляк: Я думаю, што гэта будзе вельмі цікавае спатканьне, як былі цікавымі сустрэчы з міністрам замежных справаў П. Краўчанкам, дэпутатамі Вярхоўнага Савету й іншымі гасьцямі з Бацькаўшчыны.

Шыркоўскі: Ну а бліжэй да Вашых каранёў. Адкуль Вы? Ці ўжо наведалі сваякоў?

Мерляк: Так, я гасьціў у сваіх цэлы тыдзень. Я там маю брата, які малодшы за мя-

не на 2 гады, і сястру, малодшую на 4 гады. Брат жыве на тым самым месцы, дзе я нарадзіўся. Немцы падчас вайны ў час акцыі спалілі нашую вёску. Пасьля вайны вёска адбудавалася. Брат паставіў хату на ранейшым месцы. Спаткаўся я і з сваімі равесьнікамі, але распазнаць іх ня мог, бо яны моцна пастарэлі. Усе, з кім прыходзілася гаварыць, выказвалі трывогу за будучыню. Я разумею, што ў цяперашнім эканамічным становішчы вельмі цяжка стаць на ногі. Мы, а таксама й амэрыканскія дзейнікі, лічым, што трэба ўсё рабіць паступова, пасьлядоўна, не выклікаць канфліктаў ні інтэрнацыянальных, ні нутраных, бо гэта да дабра не давядзе.

Шыркоўскі: Мы, беларусы, ведаем, што мусім добра працаваць, бо ніхто нам не паможа. Мы ўдзячны вам за вашую пасільную дапамогу. Я ведаю, што вы ўсе там ня вельмі багатыя. Мы ведаем, як цяжка вам было, як вы сумавалі па сваёй Бацькаўшчыне. Мы таксама ведаем, што вы як можаце дапамгаеце нам. За гэта мы ўдзячныя вам. Я думаю, што мы будзем самі станавіцца на нагі. Наш народ працаўнік. Ён зроібіць усё. І прыйдзе час, што мы ня будзем залежаць ні ад кога. Ні ад расейцаў, ні ад амэрыкацаў, ні ад французаў. Беларусь павінна буць самастойнай, і яна стане такой дзяржавай. І ячшэ адно я Вам скажу. Ніколі ніякага павароту назад ня будзе. Ніякай фэдэрацыі, ніякай канфэдэрацыі. Беларуская дзяржава будзе сувэрэннай дзяржавай. І кола гісторыі назад ня пойдзе, як ты яго не круці. У гісторыі ёсьць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны, якія трымаюцца ўва ўсіх умовах. Так вось, аб'ектыўна дэмакратычныя працэсы ня могуць быць прыпыненыя, як у нашай дзяржаве, так і ва ўсім сьвеце. Пагэтаму можа яшчэ будзе палітычная барацьба, некаторыя выступленьні супраць дэмакратычнага разьвіцьця. Але тое, што пачалося, ніхто астанавіць ня зможа. К таталітарызму няма ходу. Людзі не дадуць гэтага зрабіць.

Трыгубовіч: Ці можна і мне задаць адно пытаньне? Нам, калі мы былі ў Нью Ёрку на XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, вельмі шмат пытаньняў задавалі, на якія мы не маглі адказаць. Пытаньні былі ў дачыненьні да той кампаніі, якая паднялася ў прэсе на Бацькаўшчыне, якая ачарняе былых вайкоўцаў: Кушаля, Езавітава й іншых. Ці ведама вам што-небудзь пра гэта? Ці не было гэта вашай нейкай праграмай?

Шыркоўскі: Мне нічога невядома, ніхто мяне не пытаўся. І, паверце, самому непрыемна, што я нічога ня ведаю аб гэтым, і нават не чытаў. Скажу вам, што гэтая ўся пісаніна — камарыная мітусьня. І я ня вельмі пільна за ёй сачу.

Трыгубовіч: Але людзі на эміграцыі маюць зьвесткі пра нашае жыцьцё фактычна толькі з прэсы. І калі яны чытаюць ў газэце партыі народнай згоды «Згода» нешта нядобрае пра Езавітава, яны разьлічваюць, што гэта ёсьць пазыцыя дзяржавы, гэта ёсьць пазыцыя вашага ведамства.

Шыркоўскі: Мы па-другому глядзім на гэта цяпер.

Дзімітрыеў: Зараз доступ да нашых архіваў маюць вельмі многія вучоныя і іншыя асобы. Вось кожны з сваіх пазыцыяў і інфармуе.

Шыркоўскі: Мне прыйшлося многа працаваць, каб адбіць вялікую ўвагу да КДБ з боку ўсіх, хто ёсьць супраць прыезду Надсана. Некаторыя прама пыталіся: «Дайце дакумэнты, гэта ў вас, гэта КДБ». Я слухаў, слухаў, цярпеў, а потым гавару: «Вы вядзіце палітычную барацьбу, ня путайце сюды БНФ, КДБ . Няма ў мяне нічога на Надсана». Нават у друку прыйшлося мне сказаць.

«Пакіньце ў спакоі а.Надсана, які прыязджае і моліцца, КДБ гэтае не датычыцца».

Таксама і вайскоўцы. Ужо будзе 50 гадоў, як няма вайны. Трэба думаць, аб сёньняшнім дні. Аб'яднаць усё й ўсіх, кансалідацыя — вось што трэба. Я не кажу, што ня стаўлю востра пытаньня да тых, хто страляў, хто быў забойцам. Я ніколі ня буду на баку гэтых людзей. Але трэба адносіцца па-другому адносна тых, хто служыў або працаваў пры немцах. Жыць было трэба. А потым трэба ўлічваць яшчэ адно, якія былі адносіны да яго ў былым СССР. Што ён павінен быў рабіць? У далоні пляскаць: «Вельмі добра, што вы бацьку ды ўсіх родных пасадзілі ў таварняк і павезьлі ў Караганду, у Сібір. Слава Сталіну!»

Мерляк: Немцы на 6 дзень занялі Менск і пачалі наводзіць свае парадкі. Дык што беларус меўся рабіць? Спаліць хату й ісьці пад кулямёт? Трэба было жыць, лавіраваць. Рабілі што маглі, каб спыніць жорскія расправы нацыстаў над насельніцтвам. Становічша жудаснае, выжыць было цяжка. Трэба зразумець стан чалавека. І я ўдзячны за вашае выказваньне. І рады, што вы пачынаеце разумець той час правільна.

Трыгубовіч:Я была на канцэрце. Прыязджаў ансамбль з Польскай Рэспублікі. І ведаеце, яны на гэтым канцэрце актыўна уключылі праграму пра сваіх акаўцаў. На поўным сур'ёзе. Гэта нацыянальныя героі.

Шыркоўскі: Я-бы тут не пагадзіўся. Я лічу, што акаўцы— Армія Краёва— не абаранялі беларускі народ. Я ведаю, як яны на Беласточчыне распраўляліся зь беларусамі, колькі яны выбілі сялянаў, дзяцей нашых нявінных. І пагэтаму ў мяне адносіны да акаўцаў зусім другія.

Мерляк: Спадар мінітср. Такія-ж былі і «нашыя». Немцы ім давалі зброю, каб яны ваявалі супраць партызанаў і савецкае арміі. Яны-ж змагаліся супраць беларусаў, забівалі беларусаў-нацыяналістаў. Калі яны самі не маглі расправіцца, то даказвалі немцам, што гэта камуністы або сябры КПЗБ.

Яны пісалі сваю гісторыю і думалі, што гэтай акцыяй зьберагуць для сябе Заходнюю Беларусь. Мала таго, што ў выніку вайны атрымалі нашую Беласточчыну, яны хацелі дабрацца аж да былшай польскай мяжы, а можа й далей. Я чытаў кніжку, у якой апісваюць зьдзекі над беларусамі. Друкавлі і не баяліся..

Шыркоўскі: Яны забівалі дзяцей, а як немцы пайшлі, то па лясох хадзілі. Не, гэта ня тое. Якія яшчэ ёсьць пытаньні?

Мерляк: Я хачу сказаць, што было вельмі прыемна пагутарыць з Вамі і можа ў прышласьці яшчэ спаткаемся. Вы казалі, што менскія дасьледчыкі маюць доступ да архіваў. Але каб прыхаў з Амэрыкі адзін з нас і хацеў-б праглядзець архівы, ці можна-б было гэта зрабіць?

Шыркоўскі: Калі ласка. Архівы КДБ адкрытыя для ўсіх.

Мерляк: Шчыра дзякую. Я думаю, калі прыйдзе патрэба, мы выкарыстаем шанс.

Ш: Для мяне й для нашай службы галоўнае, каб заўсёды быць на старане чалавека , а не супроць. І для нас важнае, каб беларус дзе-б ён не пражываў: у Канадзе, ці у Амэрыцы —калі ён прыйдзе да нас, то мы яго сустрэнем як і любога грамадзяніна нашай рэспублікі. Розьніцы няма. Калі мянчук прыйдзе да нас і гаворыць: «Пакажыце нам, што ў Вас ёсьць»,—мы гаворым: «Глядзі». Калі прыедзе хто з эміграцыі й зойдзе сюды, то на ўсе пытаньні дамо адказ. Ён мае такія-ж правы, ён зямляк. Калі хочаце, ён пакрыўджаны чалавек, бо ёй жыве на чужыне. І трэба, каб да яго былі лепшыя адносіны, чым яны былі раней.

 РОДНАЕ СЛОВА 

# Пераклады Масея Сяднёва

*У свой час Іеан Пауль (1763-1825) карыстаўся вялікай, большай чым Гётэ, папулярнасьцю сярод інтэлектуальнай эліты ў Нямеччыне, быў у модзе. Зацікаўленасьць да яго прыкметна і цяпер. Герман Несё, напрыклад, лічыць яго, побач з Дастаеўскім, найбольшым знаўцам падсьведамага ў чалавеку. Аднак сьведамае і падсьведамае ў Іеана Паўля зраўнаважваецца, ён агітуе за душэўную збалансаванасьць, гармонію, за ўзаемадзеяньне ведаў і інтуіцыі.*

*Падаю тут у сваім перакладзе некалькі выказваньняў Паўля, якія ён называе мудрасьцю. Яны ня маюць часовасьці, знаходзяцца па-за часам. Узяты яны зь ягонай кнігі «Вечная вясна». («Der ewige Fruhling».)*

*Масей Сяднёў*

## Паэт

Калі я чытаю верш і ня бачу ў ім паэта, як чалавека, усе ягоныя намаганьні выставіць сябе вялікім, для мяне неператканаўчыя. Зноў-жа, калі паэту ўдалося паказаць жывога, *голага* чалавека, у такім ягоным творы я ня маю патрэбы: штодзённае, *жывога* чалавека я магу пабачыць і на кірмашы. У сапраўднага паэта верш—гэта рака, дзякуючы празрыстасьці якой мы бачым ня толькі зямлю, па якой яна плыве, а й ейную глыбіню, з адбіткам у ёй нязьмернага неба.

## Чалавек без паэзіі

Чалавек, які кіруецца ў жыцьці толькі розумам, без унутранай іскры паэзіі, звычайна, кіруецца толькі патрэбамі свайго жывата. Ён забясьпячае сябе, так-бы сказаць, вонкавым: для яго восень прыносіць свой вялікі плён. Ён бачыць, напрыклад, гай увесь у фарбах, але ён ня чуе ў ім сьпеву птушак, для яго ён мёртвы, як і паўночнаамэрыканскія лясы. Але калі ў цябе ёсьць паэтычны дух, здольны да творчасьці, ня той, што ў іншых толькі на паперы, а ў тваёй душы, тады ты жывеш ў тым сьвеце, дзе пануе вечная вясна, тады ты чуеш сьпеў усюды, і нават калі тваё жыцьцё павеяла лістападам, ты ў ім адчуеш ціхую радасьць, што йдзе невядома адкуль, як усё роўна на прадвесьні, калі яшчэ холадна, але вакол сябе ты ўжо чуеш патаемныя, радасныя згукі.

## Жаночая вабнасьць у сужэнстве

Спадзяваньне ўтрымаць шлюб толькі адной фізычнай вабнасьцяй, без уліку таго, што называецца розумам, які ўжо сам па сабе зьвязвае і трымае, азначала-б: зьвіваць вянок толькі з саміх кветак, без сьцябла.

## Маскаваньне намераў

Чалавек выдае сябе найбольш тады, калі спрабуе маскваць свае намеры.

## Дзяржаўны карабель

Дзяржаўны карабель, страціўшы ветразь, ня можа стаць і на якар.

## Лёс

Кожны чалавек мае свой, дадзены яму звыш, воблак, які суправаджае яго да самай дамавіны. Кожны ідзе пад сваім воблакам. Ён стаіць паміж чалавекам і праўдай. Пачарнеў твой воблак, спахмурыўся— спахмурыўся й ты. Пад ягоным ценем табе й дзень здаецца начой. Прасьвятлеў воблак, набух сьвятлом, глядзі і ты ўжо й сам прасьвятлеў. Твой воблак стаіць над табой да скону. Ступіў ты ў сваю дамоўку, і воблака пакідае цябе, адыходзіць і толькі тады перад табою адкрываецца сапраўднае поле праўды і дабрачыннасьці.

## Далікатны чалавек

З чалавекам далікатным, пачуцьцёвым дастаткова пабыць толькі адну часінку, як ты адчуеш і сам цяплыню. Гэтак адчувае сябе кволая канарэйка, калі да яе дакранаюцца цёплымі рукамі.

## Варварства

Варварства і цямнота пашыраюцца на зямлі з такой хуткасьцяй, зь якой бяжыць вялічэзны цень у часе сонечнага зацьменьня. Бягучы па зямлі, сваёй цямрынёй ён пакрывае народ за народам.

## Хворы паэт

Ужо напалавіну разлучаны з жыцьцём, хворы, паэт зьлёг у ложак. Цёмная ноч ахінае яго.Толькі далёкія зоры стаяць на небе. Ён уявіў сабе, як будуць адбывацца яго паховіны. Ён чуў званы, якія суправаджалі каго-небудзь ў ягоную апошнюю дарогу. Сваіх-жа пахавальных званоў, як памрэ, ён ня будзе ўжо чуць. Будзе ляжаць у труне бледным і ніякім. Здарылася, што адной начы пачалі званіць званы на ўсіх званіцах. Яго скаланула думка: гэта землятрус, і таму гэтак звоняць званы. Засароміўся паэт свайго ранейшага смутку й адчаю. Падужэўшы сэрцам, пачаў пытацца ў самога сябе: «Калі зямля звальваецца ў апраметную, калі здрыгнуўся сьвет і тысячы жыхароў загінула ў разьзяўленай пасьці, пашто я тады гэтак турбуюся сваім існаваньнем?»

Землятрус, аднак, гаюча падзееў на зьнябытага паэта і пахавальныя званы на ім яшчэ маўчалі.

## Адзінотнасьць душы

Калі ты ў баю, у якім бяруць удзел тысячы, калі ты чуеш нямоўкны звон зброі, сам гарыш адвагаю змаганьня, ты не адчуваеш адзінотнасьці: вакол цябе, побач цябе людзі.

І ўсё-ж ты—адзін. Нікога з табой. Адна адзіная сьвінцовая куля, што трапіла ў твой мозг, зацьміла шалёны шквал змаганьня, адкінула цябе ў бездань, ты ляжыш, як пустэльнік, цябе агортвае адзінота, паза тваёю замкнутай сьвядомасьцяй замоўк сьвет, бубен сьмерці зламаў тваю сьвядомасьць. Але калі табе здалося, што ты ўбачыў такіх-жа, як і ты, пустэльнікаў-адзінотнікаў, ці нават зварушлівую плойму туману, нейкае фатамаргана, што ў сапраўднасьці ня што іншае, як праява законаў прыроды, тады твая адзінотнасьць болей ужо не адзінота, а тое цэлае, што аб'ядноўвае ў адно вялікае, тады ты не пустэльнік, у цябе ўзьнікае адчуваньне прыналежнасьці. Ты ўжо не адзін, а з тым, хто з усімі і адначасна разам з табой.

1992



# Крык

Васіль Супрун



## *О, Беларусь!*

*О, Беларусь!*
*на чужыне далёкай,*
*калі задыхаўся ў шахтах Інты,*
*калі ў паняверцы гібеў адзінока,—*
*цяплом и надзеяю цешыла Ты.*
*З табою ў сэрцы,*
*ні голад, ні краты,*
*ні холад палярны этапных дарог,*
*ні допыты «кума», ні цяжкія страты*
*ня зьнішчылі веры і выстаяць змог.*
*І нат — калі людзі паверылі бруду,*
*што злыдні лілі на мяне, — іх кляйму,*
*Ты ўсё-ж давярала,*
*і ў муках усюды*
*давала моц веры*
*цярпеньню майму.*

## *Падаюць жоўтыя лісьці*

*Падаюць жоўтыя лісьці.*
*Вецер прыносіць тугу.*
*Я-ж ўсё так, як калісьці.*
*Любай забыць не магу.*
*Здэцца, між*
*шумаў далёкіх*
*Чую як нехта пяе,*
*Бачу ў тайзе сіневокі*
*Вобраз сяброўкі свае.*
*І васільковыя ночы*
*У сэрца вяртаюцца зноў.*
*Зь мілай усьмешкай дзявочай,*
*З чарамі памятных слоў.*
*Толькі-ж ўсё гэта — мары.*
*Шчасьце шукаю дарма,*
*У дзікім таёжным абшары*
*Родных прывідаў няма.*

## *Крамольны сон*

*Мне снілася, што быццам я на волі.*
*Вакол цвітуць сады, сады, сады.*
*І квецень іх зьліваецца паволі*
*з ракой жыцьця, парывам маладых.*

*І я іду ў заліты сонцам ранак,*
*нясу ў руках вязанку васількоў.*
*А прада мной мільён такіх вязанак*
*нясуць усе да помніка вякоў.*

*Жыцьцё бурліць у рытме дружнай працы.*
*Адной сям'ёй уздымае край народ.*
*Растуць, бы ў казцы, гарады, палацы,*
*ды ўсё чамусьці толькі першы год.*

*І ў гімне тым магутны гаманлівым*
*мой хрыплы голас з радасьці дрыжыць.*
*І крыкнуў я ўсхвалёвана, шчасьліва,*
*што вольна мы, нарэшце, станем жыць.*

*Няхай жыве,—крычу— народ мой вольны!*
*Няхай жыве братэрства, між людзьмі!*
*І раптам... боль і мат сямівугольны*
*хвіліны шчасьця абарваў, зацьміў.*

*Адкрыўшы векі цяжкія ў зьнямозе,*
*я над сабой разгледзеў толькі бот,*
*што тоўк мяне на цэментнай падлозе.*
*над ім—крывы, равучы маты рот.*

*О дзіўны сон!*
*Ты быў хвілінным раем,*
*маім жаданьнем і маёй віной.*
*Відаць, таму з такім пачварным лаем*
*глуміўся злы турэмчшык нада мной.*

## З адзіночкі

Сонца скацілася ў гольлі турэмных каштанаў,
чырваньню сьціплай мільгнуў разьвітальны прамень.
Раптам сьцямнела.
А ў сэрцы, бы сьвежая рана,
ные жальба—
дагарэў і яшчэ адзін дзень.

Так, як і сотня, мільгнуў назаўсёды бясьследна,
нават плячом не крануўшы маіх аканіц.
Толькі любоў раскаванай істужкаю бледнай
горыч надзей палажыла на памяць паліц.

Толькі пагляд, як галодны арол у пустыні,
кожную дробязь стараецца прагна лавіць;
быццам у тым наступаючым вечары сінім
Схована ўсё,
што патрэбна для сэрца, каб жыць.

Так, мо і ўсё
Мо халоднае дула нагана
кроўю замажа і смутак, і веру, і дзень.
Воля-ж даўно ўскрыжавана на гольлях каштанаў,
там, дзе пагас і сягоньня вячэрні прамень.

Менск, «амэрыканка», 1947 г.

* * *

У віры жыцьцявым
у лёцё імклівым
да мэты сягнуць зможа той,
хто смелы,
рашушчы,
мо крыху шчасьлівы
і верны
ідэі сьвятой.

Інта, 1953 г.

* * *

Кожны верш — гэта боль,
гэта крык і благаньне,
гэта вера ў сябе,
падмацоўваньне сіл,
можа нават адчай
ад той восені раньняй,
што прывідам брыдзе
па краёчку магіл.

Інта, лягер №2, 1954 г.

## Вершы за дротам

Зноў пішу ў памяць—
заплюшчыўчы вочы,—
як засынае барак.
Вершы вось тут, між палярнае ночы,
можна пісаць толькі так.

Днём за табою шныраюць «сіксоты»,
«куму» прададзены зброд.
Ведаць загадана-ж толькі работу,
шахту, разводы і дрот.

Не адабраныя толькі ўспаміны,
мроі, надзеі і сны.
Імі жывём, карыстаемся імі
ў доўгім чаканьні Вясны.

Інта, 1951 г.

## І як-жа хваліць мне?

І як-жа, скажыце, хваліць мне той «рай»,
дзе звоніць народ кайданамі,
дзе енкі і стогны запоўнілі край,
дзе трумы напіхваюць намі?

І як-жа любіць тую волю ману,
што белае чорным зрабіла,
дзе злыдні сваю праслаўляюць віну,
а правіць кагорта дэбілаў?

О, не! Не змагу я на здраду пайсьці.
сумленна хлусіць не змагу я.
Лепш з горкаю праўдай
у засьценках гнісьці —
мо хтось зразумее, пачуе.

Інта, 1950 г.




## Неба чужыны

Чаму так задумна на неба вясьнянае
моўчкі глядзіш вечарамі,
калі
сэраца юначае, жалем скаванае, раптам
мацней забаліць?

Можа ў цяпле гэтых зорак мігаючых,
што загараюцца ў пустцы нямой,
бачыш спакой,
і ў душы ўспамінаючы,
мовіш з Радзімай самой?

Там,
сярод зор,
чужыну пакідаючы,
воляй сьвятою любуешся ты;
сэрцам зьнявечаным горка рыдаючы,
рвеш ланцугі і драты.

Інта, 1951 г.

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Пасьля летняга перапынку

Анатоль Старадарожскі, Юрась Сьцяпанаў

У Полацку ўзьнік новы гісотрыка-літаратурны часопіс «Полацкі лѣтопісецъ».

Выпушчаны паштовы блёк, які прысьвечаны тысячагодзьдзю Беларускай праваслаўнай царквы, з выяваю полацкай Спаса-Еўфрасіньнеўскай царквы і фрагмэнта фрэскі XII ст. з гэтага храма. Блёк складаецца з маркі з малюнкам крыжа Еўфрасіньні Полацкай.

У Віцебскім мастацкім музэі прайшла выстаўка «Песьняры зямлі беларускай», прысьвечаная 110-м угодкам з дня нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Вядучае месца ў Віцебскай вобласьці па падпісцы на I паўгодзьдзе 1993-га году сярод беларускамоўнае прэсы займае газэта «Звязда». У цэлым, можна лічыць, што падпіска на беларускамоўныя выданьні па вобласьці прайшла няўдала. Але яшчэ горш, асабліва з мінулым годам, вынікі падпіскі ў былой цэнтральнай (Маскоўскай прэсы).

18 кастрычніка на плошчы Незалежнасьці адбыўся мітынг, які ладзілі БНФ і іншыя нацыянальныя дэмакратычныя партыі: Беларуская сялянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Хрысьціянска-дэмакратычнае злучнасьці. Ён прайшоў пад лозунгам правядзеньня рэфэрэндума аб роспуске ВС РБ. З прамовай выступіў Зянон Пазьняк. Ён абгрунтавана астанавіўся, на тых хібах, якія робіць урад, засяродзіў увагу на той шкодзе, якую нясе нашая краіна, калі яна гуляе ў «паддаўкі» з Расеяй, і галоўнае даў канкрэтныя факты, якія гавораць аб матэрыяльных стратах ад такога саюзу з былым «старэйшым братам».

19 кастрычніка на плошчы Незалежнасьці ладзілі мітынг Незалежныя прафсаюзы. Мітынг праходзіў пад лозунгам паляпшэньня сацыяльных і эканамічных умоваў жыцьця.

20 кастрычніка на плошчы Незалежнасьці правялі мітынг былыя камуністы. Яны патрабавалі вяртаньня дзяржавы ў ранейшы сацыялістычна-партыйны лад жыцьця. У гэты-ж дзень выйшлі на плошчу і патрыятычна настроеныя беларусы. Чырвона-зялёныя сьцягі зноў сутыкнуліся зь бел-чырвона-белымі.

20 кастрычніка, пасьля перапынку (6 месяцаў) адкрылася чарговая сэсія ВС РБ. Апазыця прапанавала разглядзець на сэсіі ў першую чаргу закон аб павышэньні мінімальнай зарабатнай платы, заслухаць справаздачу ўрада аб праведзенай рабоце, вырашыць дзень правядзеньня рэфэрэндума. Але паслухмяная волі ўраду дэпутацкая большасьць паставіла на адно з апошніх месцаў парадку сэсіі пытаньне аб рэфэрэндуме.

У апошнія дні кастрычніка стала вядома, што правядзеньне рэфэрэндума так і не адбудзецца. 202 дэпутата прагаласавалі супраць правядзеньня рэфэрэндума, 34 паўстрымаліся і толькі 35 былі за рэфэрэндум.

#  Адраджэнец Грамады



Ад Анатоля Белага атрымалі сумны ліст. «Цяжка хворы Міхась Ткачоў. Патрэбныя лекі, калі можаце дапамажыце». Телефаную да хаты, каб даведацца, якая мэдыцына неабходная і... «Няшчасьце якое... Міхась памёр, у суботу.»

31 кастрычніка 1992 г, на 51 годзе жыцьця памёр Міхась Ткачоў. Беларус. Гісторык. Пісьменьнік. Настаўнік. Палітычны дзеяч. Адраджэнец Грамады.

Цяжка пісаць аб гэтым чалавеку. І ня толькі таму, што больна, бо не загаіліся раны смутку. Вельмі нялёгка ў некалькіх словах расказаць аб М. Ткачову, бо быў ён таленавітым чалавекам і навукоўцам, неардынарнай асобай, мужным змагаром.

Міхась Ткачоў нарадзіся 10 сакавіка 1942 г. у Мсьціславе. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Працаваў доўгі час архэолягам. Вывучаў ваенна-абарончае дойлідства, матэрыяльную культуру і архітэктуру Беларусі 11-18 стст. Напісаў некалькі кніг, у тым ліку і «Замкі Беларусі», якая стала настольнай для многіх дасьледчыкаў. Ён быў адным з ініцыятараў стварэньня ў Горадні аднаго зь першых у Беларусі культурна-палітычнага клюбу «Паходня». 11 гадоў аддаў працы ў Гарадзенскім дзяржаўным універсытэце. Апошнія гады працаваў у Беларускай Энцыклярэдыі. Спачатку загадчыкам рэдакцыі Гісторыі Беларусі, пасьля галоўным рэдактарам Беларускай Энцыкляпэдыі.

Мяне заўсёды зьдзіўляла, колькі справаў ён пасьпяваў зрабіць. Навуковая дзейнасьць, адказная рэдактарская праца займалі багата часу, да таго-ж ён не прапускаў ніводнага мітынгу ці сустрэчы, дзе зьбіраліся беларусы. І заўсёды быў у першых радах барацьбітоў.

Ён рана зразумеў значэньне адраджэньня нацыянальнай самасьвядомасьці і самавызначэньня беларускага народу. Ідэі грамадаўцаў былі блізкі ягонаму сьветапогляду. Можа таму, Міхась Ткачоў стаяў ля вытокаў адраджэньня Беларускай сацыял— дэмакратычнай грамады, якая сваёй дзейнасьцю працягвала ідэі нацыяльнай партыі Грамады, арганізатарамі якой былі браты Луцкевічы, В.Ластоўскі, Цётка і інш.

У пачатку сакавіка 1991 г. на ўстаноўчым зьездзе Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады ён быў выбраны старшыёй яе Цэнтральнай Рады. Ён быў лідэрам Грамады. Ён і застаўся ім у памяці многіх беларусаў.

Сьвятлана Белая





Беларусы Амэрыкі каля сабору сьв. Сафіі,1992 г.



# Туды, дзе нашыя карані



Сьвятлана Белая

Спачатку на Бацькаўшчыну ехалі адзіночкі. І тыя, хто праводзілі смельчакоў у дарогу, хрысьцілі іх на разьвітаньне і ў думках разьвіталіся назаўсёды. Але падарожнікі насуперак усяму вярталіся і, нягледзячы на тое, што некаторыя былыя знаёмыя зь недаверам пачалі адносіцца да іх, зьбіраліся на Радзіму зноў. Бацькаўшчына клікала да сябе, і яны ішлі насустрач яе гуканьню.

Ляцеў час, і з кожным годам усё больш беларусаў Замежжа наведвала Бацькаўшчыну. Спачатку ехалі па аднаму, пасьля зь дзяцьмі, вельмі рэдка сем'ямі. Пераломны момант наступіў пасьля XIX Стустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. У канцы ліпеня 1991 году ў Беларусь паехала група зь дзевяці чалавек. Янка Азарка, Тацьцяна Дубаневіч, Сяргей Карніловіч, Марыя Лагуш, Андрэй і Міхась Мітраховічы, Адольф Субота, Эва Яраховіч прабылі на Бацькаўшчыне ўсяго 26 дзён, але, як казалі ўсе яны па вяртаньню, успамінаў аб гэтай паездке хопіць на ўсё жыцьцё. Неўзабаве, паехалі на Бацькаўшчыну Міхась Белямук, Валодзя Страпко, Валянтына Яцэвіч, Янка Ханенка, Іра Каляда, Алесь Міраеўскі, Людміла Бакуновіч, Янка Запруднік..

А жадаючых наведаць Беларусь было ўсё больш і больш. Таму і зьявілася ў Кліўлендзе ідэя сабраць усіх разам і паехаць на Бацькаўшчыну адной групай. Сяргей Карніловіч, ініцыятар гэтай паездкі, расказваў, што спачатку плянавала ехаць усяго дзесятак людзей, але чым бліжэй падыходзіў час ад'езду, тым усё больш беларусаў зьбіралася ў дарогу. Так пастунова сабралося 34 асобы. З Кліўленду паехалі на Радзіму Кацярына Валюкевіч, Ірэна Врэціц (Трацьцяк), Кастусь Калоша, Тацьцяна Кананчук, Сяргей Карніловіч, Вольга Лукашэвіч, Анатоль, Натальля й Алена Лукьянчыкі, Гэлена і Васіль Радзюкі, Маня Патапенка, Валянтына Ягоўдзік, Валянтына Яцэвіч. Таксама былі беларусы з Дэтройту, Саўт Рывэру, Нью Ёрку.

Для кагосьці зь іх гэта была другая сустрэча з Бацька ўшчынай, для некага пятая, але для пераважнай колькасьці групы першая.

Асаблівасьцю гэтага падарожжа было яшчэ і тое, што беларусы пабывалі ня толькі на сваёй радзіме, зямлі, адкуль бацькі іх паходзяць, дзе нарадзіліся яны самі, дзе прайшло іх дзяцінства, але крыху і павандравалі па Беларусі. Пазнаёміліся з сучасным і старажытным Менскам. Пабачылі беларускія мясьціны Вільні. Паслухалі званы сьвятой Сафіі, пакланіліся мошчам сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Прайшліся берагам Дзьвіны, наведадлі стары Віцебск. У Жыровіцах, у Менскай Духоўнай сэмінарыі яны мелі цікавую сустрэчу з выкладчыкамі і навучэнцам. Адтуль павезьлі кліўлендцы ў сваю царкву Жыровіцкай Божай Маці ікону Сабору ўсіх Беларускіх Сьвятых, падараваную рэктарам сэмінарыі, япіскапам Канстантынам.

Яны былі і турыстамі, і гасьцямі, і нават артыстамі (на сустрэчы ў Менску зь сябрамі БНФ, таварыства «Бацькаўшчына», клюбу «Спадчына», а таксама ў Віцебску яны далі невялікія, але цудоўныя канцэрты). Але найперш за ўсё яны былі тут землякамі. Суайчыньнікамі. Сваімі людзьмі.

Аб тым, што больш за ўсё запомнілася ім ад той сустрэчы з роднай зямлёй, мы папрасілі расказаць некаторых удзельнікаў гэтага падарожжа.

## *Сустрэча першая або Першае спатканьне з Бацькаўшчынай*

Чым даўжэй чакаю я дзень нашай сустрэчы,
Тым больш я хачу аддаліць яго.
Чым часьцей я думаю аб табе,
*Тым больш я баюся чагосьці.*
Чым бліжэй дзень нашага спатканьня,
Тым усё больш хвалююся я.
Баюся, што мы сустрэнемся, і я цябе не пазнаю...

Вольга Лукашэвіч: «Маці мая паходзіць з Палесься, вёскі Гарадная. Я таксама нарадзілася ў Гарадной, але ведала аб маёй Радзіме толькі з аповядаў маці, зь яе гутарак, успамінаў. Толькі дзіўная рэч, калі я прыехала з Амэрыкі ў Гарадную, мне здалося, што я там жыла. Там было ўсё так, як расказвала мне мая матуля. І той калодзеж, дзе яна калісьці брала ваду, і тыя драўляныя хаты на нашай вуліцы, і тыя-ж людзі. Пэўна, што многае зьмянілася з таго часу.

Выраслі новыя цагляныя дамы, пастарэлі суседкі, мая цётка Ганна. Тое возера у вёсцы, дзе некалі мая маці з моладзьдзю каталася на лодках, з-за меліярацыі зусім абмялела, толькі качкі плаваюць у ім. Але ў агульным, усё выглядае, як і з аповядаў маёй маці. Тыя-ж прыгожыя краявіды, такі-ж прастор навокал. А галоўнае людзі, зь якімі я сустракалася, такія добрыя, шчырыя, працавітыя.

У нядзелю мы пайшлі зь цёткай Ганнай у Троіцкую царкву. Некалі ў яе хадзіла мая маці. Гэта вельмі старая царква, пабудаваная яшчэ ў 18 ст. (Новая ў час вайны згарэла). Невялікая, драўляная, памаляваная сіняй фарбай, у сярэдзіне прыгожы драўляны іканастас. Як і ў старыя часы іконы пад рушнікамі. Вельмі добры хор у царкве, у ім, пэўна, сьпявае палова прыхажанаў. Я стаяла і ўяўляла, як маці мая калісьці тут сьпявала. Было радасна, што я, нарэшце, на сваёй радзіме і сумна, што не дачакаліся гэтага часу мае бацькі.



У часе XIX Сустрэчы Беларусаў.
Зьлева направа: Валянтына Пархоменка, Пётр Краўчанка, Вольга Лукашэвіч, Генадзь Бураўкін.

А калі мы выйшлі з царквы, то да мяне пачалі падыходзіць людзі. Хтосьці сябраваў з маёй маці, хтосьці хрысьціў дзяцей з маім татам. Гэта быў вельмі пачуцьцёвы момант. Проста ня верылася, што людзі пасьля столькі гадоў помняць маіх бацькоў.



Герб в.Гарадная з 1670 г.

Вечарам уся мая радня сабралася ў хаце цёткі Ганны. Аказалася, у мяне багата кузінак і кузінаў, пляменьніцаў і пляменьнікаў. Толькі з мамінага боку каля 30 асобаў жыве. Быў незвычайны вечар. Вечар успамінаў і сьпеваў. Мы сьпявалі палескія песьні, прыгожыя, старадаўнія. І цётка Ганна была зьдзіўлена, што я не забылася іх. Яна ня ведала, што маці мая заўсёды сьпявала дома, ад яе і я навучылася.

Амаль тыдзень я гасьціла ў сваёй радні, а здаецца, быццам-бы адзін дзень. Была на нашых вясковых могілках, дзе пахаваныя мая бабуля й радня. Зьбірала ягады ў лесе, у якім яшчэ не зарасьлі раны вайны (Вёска нашая як-бы на гары стаіць, і яе ўвесь час то нямецкія, то савецкія вайскоўцы бралі. У цэнтры Гарадной ёсьць брацкая магіла 76 савецкіх воінаў, а таксама магіла, у якой пахаваныя 400 мірных жыхароў вёскі, якіх восеньню 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі). Езьдзіла ў краязнаўчы музэй, дзе пабачыла такое багацьце касьцюмаў Палесься. Увесь час чулася, як у сваёй сям'і.

І хадзіла я басанож па зямлі маіх продкаў. І піла студзёную воду зь дзедавага калодзежа. І адчувала, што я, нарэшце, дома, бо тут маі карані».

## Сустрэча другая або Добрыя перамены

Нам прыказвалі маўчаць,
але памяць за нас гаварыла.
Казалі забыць свае песьні,
але зямля за нас сьпявала.
Прымушалі зрачыся мовы сваёй,
але нашыя продкі на ёй не маўчалі.
У цяжкім змаганні, мы здабылі волю і мову,
але ў баі загінулі змагары.

Тацьцяна Кананчук: «Першы раз я была на Бацькаўшчыне разам з дачкой Галінай у 1989 годзе. Памятаю, як у першыя дні нашага побыту, выклікалі нас да сябе мясцовыя салігорскія ўлады і прачыталі цэлую лекцыю аб тым, як трэба паводзіць сябе, што трэба, а чаго ня трэба казаць. Было дзіўна слухаць усе гэтыя інструкцыі. Але больш дзіўным было тое, што тыя людзі, якія казалі нам усё гэтае, былі абсалютна ўпэўненыя ў сваёй праваце і лічылі, што яны робяць вельмі патрэбную і неабходную справу.

І вось праз тры гады я зноў прыехала ў Беларусь, на Салігоршчыну, дзе жыве мой брат і сваякі. Адразу заўважыла, што людзі сталі больш адкрытыя, сьмялейшыя, няма былога страху. Амаль два тыдні правяла я ў свайго брата, і ніхто мяне на інструктаж ня выклікаў.

Пасьля спатканьняў з сваякамі самым памятным момантам была сустрэча і канцэрт у Менску, якія адбыліся 29 ліпеня. У Доме літаратараў сабралося багата людзей.

Многа цёплых слоў было сказана пра наш народ і зямлю беларускую. Гучалі цудоўныя выступленьні прафэсыйных і самадзейных артыстаў. А пасьля наш кліўлендзкі хор «Васілёк» (вступалі Кацярына Валюкевіч, Ірына Врэціц (Трацьцяк) Кастусь Калоша, Тацьцяна Кананчук, Вольга Лукашэвіч, Маня Несьцер, Маня Патапенка, Гэлена Радзюк, Валянтына Ягоўдзік, Валянтына Яцэвіч, Анатоль Лукьянчык—С.Б.) прасьпяваў некалькі песьняў: «Я ад Вас далёка», «Поле», «Магутнае слова».

А пачалі мы сваё выступленьне зь песьні, якая сёньня вядомая і любімая ў Беларусі. «Люблю наш край» разам з намі сьпявалі вельмі многія ў залі. І ў гэты момант мы адчувалі сапраўднае яднаньне зь людзьмі, якія прыйшлі на гэтую сустрэчу. Гучала ня проста песьня, а шчырае прызнаньне ў вялікай любові да нашай агульнай зямлі-Бацьшаўшчыны, якая завецца агульным словам —Беларусь.

Такія моманты ніколі не забудацца».

(Працяг у наступным нумары)



Пасьля канцэрту: Валянтына Ягоўдзік (другая зьлева), Вольга Лукашэвіч, Наталья Пракаповіч, Тацьцяна Кананчук, Натальля Лукьянчык, Кацярына Валюкевіч, Маня Патапенка, Ірына Врэціц (Трацьцяк) Тацьцяна Пракаповіч. У цэнтры Анатоль Лукьянчык

